НАША НІВА

*Беларуская газэта* *Вільня №2, 1994*

**ГОМЕЛЬ** «...Блукаючы па Гомлі, я згадваю Дублін. Быццам гэты горад створаны адмыслова для напісаньня сваіх «Гомельцаў»... Горад, у чым жыдоўскім асяродку нараджаліся лепшыя на Беларусі расейскамоўныя паэты, а варта было ўзьнікнуць асяродку беларускаму, як адтуль зараз жа выйшаў А.Сыс...». Загадкам старога ды цяперашняга Гомля Рэдакцыя мяркуе прысьвяціць чарговы нумар «НН»




# ФРАНЦУСКІ НУМАР



# КАМЕНЬ, ЯКІ РАСЬЦЕ

Альбэр Камю






Машына цяжка крутанулася й вывернула на гразкую ад дажджу лятэрытавую дарогу. На ўзбочыне фары раптам выхапілі са змроку — спачатку з аднаго, потым з другога боку дарогі — дзьве драўляныя хаты, крытыя бляхай. Побач з другою, справа, скрозь рэдкі туман угадвалася збудаваная з грубых бэлек вежа. Зь яе вяршыні йшоў мэталічны трос. Нябачны ў месцы злучэньня, ён пачынаў зіхацець, трапляючы ў сьвятло фараў, і зноў зьнікаў за адхонам, які перарэзваў шлях. Машына тармазнула й спынілася за некалькі мэтраў ад хат.

Чалавек, які ўзьнік справа ад шафёра, зь відочным высілкам праціснуўся ў дзьверцы й, устаўшы на ногі, крыху захістаўся ўсім сваім магутным целам асілка. Нібы адчуваючы свой цяжар, ён стомлена стаяў у змроку побач з машынай і, здавалася, прыслухоўваўся да халастога вуркатаньня рухавіка. Потым рушыў да адхону і ўвайшоў у акрэсьлены фарамі сьветлы трохкутнік. Ён спыніўся на вяршыні схілу, і яго шырачэзная сьпіна адбілася на фоне ночы. Праз хвіліну ён азірнуўся. Над прыборным шчытком яму ўсьміхаўся падсьвечаны зьнізу чорны шафёраў твар. Чалавек падаў знак, і шафёр заглушыў матор. Адразу па-над дарогай і лесам апусьцілася вялікая, сьвежая цішыня. І скрозь гэтую цішыню пачаў далятаць шолах вады. Мужчына глядзеў на раку пад адхонам, пазначаную толькі шырокім рухам чорнае цемры, пасыпанай бліскучай луской. Яшчэ болей густы й застылы змрок удалечыні, напэўна, быў другім берагам. Добра прыгледзеўшыся, там, праўда, можна было заўважыць кволы жоўты агеньчык, як ад далёкай газьніцы.

Мужчына павярнуўся да машыны й трасянуў галавой. Шафёр пагасіў фары, зноў запаліў, і пачаў імі міргаць праз аднолькавыя інтэрвалы. Чалавек на адхоне зьнікаў і зьяўляўся зноў, здаючыся ўсё болей магутным і болей высокім пры кожным новым уваскрашэньні. Раптам ліхтар на тым беразе, узьняты нечай нябачнай рукой, некалькі разоў узьляцеў у паветра. Па апошнім знаку ліхтаршчыка шафёр канчаткова патушыў фары, і ноч адразу праглынула машыну й чалавека. Калі фары згасьлі, рака зрабілася амаль бачная, цяпер раз-пораз можна было заўважыць яе доўгія вадзяныя мускулы, што перакочваліся адзін за адным. Абапал дарогі чарнеў змрочны лясны гушчар, які ўздымаўся ў самае неба й, здавалася, падступаў зусім блізка. Дробная імжа, што галзінай раней прамачыла дарогу, яшчэ вісела ў паветры, робячы яшчэ цяжэйшымі цішыню й нерухомасьць, якія панавалі над гэтым вялікім прагалам сярод некранутага лесу. У чорным небе мутна дрыжалі зоркі.

Але вось з таго берагу даляцела бразгатаньне ланцугоў і ледзьве чутны плёхкат. Трос над хатаю праваруч ад чалавека напяўся, па ім з глухім скрогатам пабегла дрыготка, і ў тую ж хвіліну па-над ракою разьліўся шырокі й прыцішаны шум патрывожанае вады. Скрогат паступова зрабіўся раўнейшы, шум вады памацнеў, пачуўся выразьней, і ліхтар паволі пачаў расьці. Цяпер вакол яго можна было заўважыць цьмянае жоўтае кола. Яно патроху шырэла, потым пачало меншаць зноў, а ліхтар усё блішчаў скрозь смугу, высьвечваючы ўжо над сабой і з бакоў нешта накшталт павеці з сухога пальмавага лісьця, якую з чатырох бакоў падпіралі тоўстыя бамбукавыя жардзіны. Гэтае грубае збудаваньне, зь нейкімі няпэўнымі ценямі, што рухаліся вакол, паволі набліжалася да берагу. Калі яно было ўжо амаль на сярэдзіне ракі, у жаўцявым сьвятле выразна акрэсьліліся тры невысокія, амаль чорныя, голыя да пояса чалавечыя постаці ў востраверхіх капелюшах. Людзі стаялі нерухома, ледзь расставіўшы ногі й крыху нахіліўшыся, ураўнаважваючы магутнае цячэньне ракі, што напінала сваімі нябачнымі водамі ў бок вялікаму нязграбнаму плыту, які

*Працяг на старонцы 4*

# Дзёньнік прыватнага чалавека



Гэты верш застаўся на маім пісьмовым стале ў рэдакцыі на Жыгімонта 12/2 ад чалавека, які пакінуў Вільню назаўсёды. Аматарскі, нязграбны, шкалярскі вершык прагучаў адзіным эпілёгам шматвяковага йснаваньня нацыі разам зь Вільняй.

На вулках места ўжо не сустрэнеш менчукоў, якія прыехалі на дзянёк — пасядзець у бібліятэцы ці ва ўтульнай кавярні, ці паблукаць паміж Замкавай ды Завальнай. Ня ведаю, ці надоўга, але слова прамоўленае, фінальны акорд прагучаў, непрыступнай заслонай паўстала мяжа. Чалавек зь Беларусі будзе цяпер блукаць па Вільні пераважна ў кнігах, адзначаючы для сябе галоўныя адрасы нацыянальнай гісторыі — першай беларускай кнігі й першай газэты, першай партыі й першай гімназіі...

Некалі тут пісалі свае аматарскія, недасканалыя, шкалярскія вершы паэты першай велічыні: Купала, Багдановіч, Гарун... Гэта былі вершы вітаньня, а не разьвітаньня. Але пісалі яны таксама «примитивно», як сказаў бы адзін літаратурны патрыярх, «непісьменнай прастацкай гутаркай», — як сказаў бы другі. І выходзіла ў іх жывое, бо без разьліку ці то на званьне, ці на грошы, ці нават на ўсенародны ўздым. Ня мелі яны крапівоўскіх моўных нарматываў, а разам зь імі — досьведу гладкапісаньня, крывадушнасьці ды іншых прафэсійных якасьцяў кваліфікаваных паэтаў. Цяпер так пішуць, бывае, хіба пачаткоўцы — пакуль не пачуюцца сапраўднымі беларускімі паэтамі, упэўненымі ў мове, літаратуры й сабе.

Пасьля нашаніўцаў Вільню віталі Арсеньнева, Жылка, Танк. Усе яны прыяжджалі сюды. Каб тут адбыцца. Гэты — выяжджае. Ён разьвітваецца назаўсёды.

Вось чаму мы ня сталі аддаваць гэты верш рэдакцыйнаму праўшчыку. Хай застанецца такі — «прастацкі» і нашаніўскі. Адзіны водгук нацыі на разьвітаньне з калыскай свайго нацыянальнага жыцьця.

З 1 сакавіка прыехаць сюды можна як у Бэрлін, Парыж ці Рым. Хіба што тэарэтычна Вільня бліжэй — 180 км ад Менску. Але ў палітыкаў свае рэзоны. Ім трэба гэтая мяжа. Хоць толкам і яны ня скажуць — навошта. Мабыць, проста так — каб было. Ці таму, што ніколі не было (дзіўная лёгіка ў палітыкаў). Народам мяжа ня трэба, але сёньня яны й самі толкам ня ведаюць, чаго ім *ня трэба*. Культурам патрэбнае бязьмежжа, але што яны могуць, калі ўсё ўрэшце вырашаюць палітыкі!

Імя аўтара гэтага верша я не называю — міліцыянты СНГ шукаюць яго цяпер на тэрыторыі ад Буга да Курыл. Сьледам за сваім вершам ён і сам ператварыўся ў мэтафару жывога беларускага духу, які колькі сябе помніць — вечны андэграўнд. Нараджаецца зь нічога, бунтуе маладыя арганізмы, прымушае іх пісаць вершы і, нарэшце, па легалізацыі носьбіта, зноў кудысьці зьнікае. Назаўсёды...

**РАЗЬВІТАНЬНЕ ЗЬ ВІЛЬНЯЙ**

Такія месты проста так не пакідаюць,
Зь іх адыходзяць з Богам хто, а хто з баямі
За іх, галовы і паэмы ім складаюць,
Мне ж толькі гонар разьвітацца выпадае.

Да пабачэньня, гаспадыня пані Вільня,
Я разумею Вас ужо без перакладу,
Я шмат казаў, і вось мы не дагаварылі,
Do zobaczenia. До свиданья. Viso gero.

Бягу з падмосткаў антыкварных тратуараў
За домам дом, за храмам храм здаю бяз бою,
Ўздоўж дэкарацыяў усечасовага тэатру,
Дзе не сыграў ні акупанта, ні героя.

Да пабачэньня, вельмі стары стары горад,
Людзей вялікіх і падзей маўклівы сьведка,
Не аднаго ты памятаеш Бога,
І Бог вайны цябе прыгадываў нярэдка.

Я ўжо ня зблытаюсь у пошуках сьвятыні,
Якой маліцца ў час падзякі ці навалы,
Мне верыць нельга, але верце, будзе скінут
Мой капялюш за сотні вёрст ад Вострай Брамы.

Да пабачэньня, праважаць мяне ня трэба,
Мне ўжо ня зьбіцца ў лябірынце тых завулкаў,
Але на ўсё жыцьцё застанецца патрэба
Той шлях прайсьці у адваротным накірунку

P.S.

Хай не хапаў я зорак зь віленскага неба
І пры ад'езьдзе маю не геройскі выгляд,
Але на старасьць ёсьць для выхваленьняў тэма,
Што і ў маім жыцьці быў «віленскі пэрыяд».

* * *

Яшчэ слаба ўсьведамляючы гэта, Беларусь спакваля ўваходзіць у новыя часы свайго йснаваньня — часы замглёнай гістарычнай пэрспэктывы, расплывістых крытэрыяў і няясных мэтаў. Дармовая, нічым не аплочаная, ня выпакутаваная незалежнасьць аддаецца гэтак жа лёгка й безаплатна, як і далася. Гэтаму спадарожнічае хіба што некаторае замяшаньне ў шэрагах незалежнікаў, некаторае непаразуменьне. Так бомж, якому раптам дазволілі пажыць у камфортных апартамэнтах, пакідае іх са шкадаваньнем, зь непаразуменьнем уваччу, але й без супраціву. Ён расстаецца зь дзівам і таму не пытаецца, чаму яго зноў выкідаюць на вуліцу.

Дзіва незалежнасьці й праўда незалежнасьці — розныя рэчы. Можна, вядома, верыць, што дзіва нейкім чынам ператворыцца, перарасьце, перайначыцца ў праўду. Многім такая вера замяняе самую дзейнасьць. Але, як кажуць, спадзявайся на лепшае, а разьлічвай на горшае. Спадзеў — рамантычны, а разьлік — гэта ўжо прагматыка.

Нельга сказаць, што беларускія незалежніцкія сілы разьлічваюць магчымасьці свайго новага падпольля. Але нельга сказаць таксама, што разьвіцьцё падзеяў у Менску ды Маскве ўсяляе хоць нейкую надзею на штосьці іншае. Вядома, каму хочацца думаць пра тое, што Беларусь яшчэ не атрымала сваю сапраўдную незалежнасьць, і пра тое, колькі сапраўдная будзе каштаваць!

І ўсё ж паспрабуем разьлічваць на горшае, на тое, што заўтра незалежніцкія сілы, чыя дзейнасьць сёньня — «ва ўмовах незалежнасьці» — так часта выглядае на недарэчнае палітыканства (незалежнічаюць, панімаеш, у незалежнай краіне!), — што заўтра яны вернуцца да свайго падспуднага чыну. Разьлік мусіць палягаць на тым, каб сёньня зрабіць тое, што заўтра зрабіць будзе цяжэй або немагчыма.

Першае, што ў такой сытуацыі кідаецца ў вочы — гэта ўсё большая раздробленасьць беларускіх незалежнікаў. Яны ўваходзяць у паласу замглёнай гістарычнай пэрспэктывы паасобку, у лепшым выпадку — папартыйна. Хутчэй за ўсё й яднацца ім давядзецца ў часы расплывістых крытэрыяў, што запатрабуе неверагодных высілкаў, энэргіі й часу, пакуль з мары-незалежнасьці, якая ўжо сёньня ня лучыць нікога, ня вырабіцца незалежнасьць-мэта.

Адзінай канстантаю, якая зможа злучыць незалежніцкія шыхты, стаць перадумоваю іхняга яднаньня, полем су-польнасьці зьяўляецца беларуская мова, дакладней адзіны правапіс. Калі й заўтра сотні ўлёткаў, падпісных лістоў, газэтаў, часопісаў, кніжак, радыё- й тэлепраграмаў ды іншага ўсяго, што прадстаўляе незалежніцкія сілы, будзе як і сёньня друкавацца дваццацьцю правапісамі, канстанты не атрымаецца. Хто ведае, якая доля няўдачы за ўсю гісторыю беларускага незалежніцтва кожнага разу прыпадала на адсутнасьць адзінага правапісу?

Той правапіс, які прапануе сёньня невядома кім абраная ці прызначаная камісія, ня будзе прыняты цэлай групай незалежніцкіх выданьняў, у т.л. і «Нашай Нівай». І рэч тут ня ў мяккіх знаках, а ў элемэнтарным недаверы да складу кабінэтнай камісіі, якая заўсёды будзе працаваць на афіцыёз — сёньня «сувэрэнны», заўтра «прарасейскі», пасьлязаўтра яшчэ пра-які-небудзь. Гэтая камісія — толькі шырма тае працы, якую за шырмай ня робіць ніхто.

У гэткіх умовах мы мусім падумаць пра нараду незалежніцкіх сілаў, якая адбудзецца ў Менску й зьбярэ прадстаўнікоў усіх сапраўды незалежніцкіх выданьняў і мовазнаўцаў. Мы мусім мець на руках выніковы дакумэнт гэтае нарады, які й будзем выконваць. У моўнай справе нам спатрэбілася тое, што ў палітыцы называюць «урадам народнага даверу». Ня так густы й кампрамісы, як узаемны давер ёсьць галоўнай падставаю дзеля выкананьня прынятага дакумэнту ўсімі, дзеля будучага яднаньня ўсіх незалежнікаў.

Але гэта трэба зрабіць сёньня. Бо заўтра час для названае канфэрэнцыі можа быць ужо неспрыяльны.

Тапаграфіі

# ВАЎЧЫНЫЯ СЬЦЕЖКІ

Сяржук Вітушка

Часта дзеля вандровак выбіраеш наўмысна самыя глухія куты. Бывае даводзіцца прадзірацца да мэты амаль што ваўчынымі сьцежкамі. Затое ў такіх мясьцінах заўсёды натрапіш на якіясь рэліктавыя цікавосткі.

Калі дапытлівы чытач не палянуецца й зірне на мапу, то непадалёк ад Вільні паміж Вяльлёю й чыгункай на Менск пабачыць зялёную пляму амаль не засьмечаную кропкамі населеных пунктаў. Гэта — рэшткі колішняй Лаварыскай пушчы, мясьціна зь ляснымі чашчобамі й ляндшафтамі незвычайнай прыгажосьці. Тамтэйшыя жыхары яшчэ й дагэтуль кажуць на гэтыя лясныя абшары — пушчавы лес. Цывілізацыя нейкім дзіўным чынам яшчэ не пасьпела разбурыць дзікае маляўнічасьці гэтага куточка. Так сталася можа быць таму, што праз гэтыя лясы пралягае мяжа паміж Літвою й Беларусяй. Сталічнаму начальству, відаць, не было асабліва справы да гэтых правінцыйных узьмежкаў. Вось і атрымаўся запаведнік. Тут, сярод дзіўных старадаўніх лясоў людзі яшчэ баяць дзіўныя гісторыі. Пару такіх я запісаў ад дзядука Міхала Данюша зь вёскі Кланішкі Астравецкага раёну.



«Паехаў я тамака ў лес, там, аж пад Катлоўку. Асіны там былі напілаваныя, так хацеў кавалак асіны прывязьці на начоўкі. Як напалі ваўкі, як напалі ваўкі! А ёш тваю... Холадна было, у санях дыван быў, так я ўкруціўся, каб ваўкі мяне ня зьнюхалі. А кабылка мая, белая такая была, так зьелі ваўкі кабылку начыста, толькі косьці тамака. Адзін воўк суне галаву ў хамут, суне галаву ў хамут, так я таргануў за лейцы — укілзаў гэтага ваўка й тады, брат, палкай, палкай ваўку. А гэтыя ваўкі, можа зь дзесяць іх там было, з тылу даганяюць, даганяюць, а я гэтаму палкай, палкай, і тады, брат, паехаў. Ну як лес кончыўся засталіся тыя ваўкі ў лесе. Так я толькі на гэтым адным ехаў і ехаў. Як толькі лес які побач, так ён і кіруецца да лесу, а я таргану яго. І так дарогай ехаў, ехаў, да Вароны скіраваў, там на Быстрыцу. Прыехаў у Быстрыцу, як справіў крык: «Людзі, ратуйце!» Наляцела людзей ваўка глядзець, што гэта за воўк такі. Ну й забілі гэтага ваўка. Скуру зьдзёрлі, прадалі, водкі выпілі, ну й разыйшліся...

А другі раз таксама гісторыя была. Ішоў я ў Быстрыцу, роў там такі ёсьць. Я іду праз гэты роў — гляджу воўк ляжыць. Так я абжэргаў яго, а ён гоц! Так я за вушы цап, так во сьціснуў яго за вушы, а вушы вялікія ў ваўка. Тады нагамі пад бакі, нагамі пад бакі яму. Ён як скочыў гэты воўк, а ёш тваю! Я яго за вуха тармашу, не пускаю ў бок, прама, дарожкай толькі каб ляцеў. Ляцеў, ляцеў ён, праз рэчку — чабух, чабух, не глыбока так было. Прыляцеў у Быстрыцу... Забілі таго ваўка, таксама забілі».

У гэтых жа мясьцінах пачуў я яшчэ адну падобную гісторыю. Гэтым разам ужо пра кабету. Зайшла, маўляў, тая ў хлеў, а там воўк залезшы быў. Ён як сігане ўцякаць, але, небарака, ублытаўся бабе ў спадніцу й павёз яе...

Зьдзівіўся я спачатку гэтым мясьцінам, людзям ды іхным гісторыям — жывуць сабе ў пушчах, на ваўках гойсаюць. а потым падумаў. А можа гэта наш народны цырк ці нацыянальны спорт. Трэба будзе яшчэ раз паехаць у той пушчавы лес на ваўчыныя сьцежкі — можа й мне пашэньціць пракаціцца.

## *ШТО ПІШУЦЬ?*

Чым далей назіраю за беларушчынай, тым больш яна мне нагадвае эспэранта — і па мэнтальнасьці сваіх носьбітаў, і па месцы ў грамадзтве, і па ігнараваньні яе праз моўны імпэрыялізм, па адносінах да яе з боку дзяржавы («сваёй»), нават па тыражах. Апошняе, што мяне ўцьвердзіла ў гэтым перакананьні — гэта калядны нумар «Нашай Нівы» — цытата-motto пра магістральнасьць інтэлектуальнага эстэтычнага кірунку, якая сьведчыць пра магчымасьці культуры й заняпад нацыі. «Што да віртуозаў філялёгіі, дык для іх ня так істотна — жывая гэта мова ці мёртвая, ці містыфікаваная. Плебэйскія культуры набываюць вышэйшы кшталт, калі паміраюць». Вось так і сустрэліся — мова сто гадоў паміраючая й мова сто гадоў як нарадзіўшаяся.

Падабенства назіраецца і ў лексыцы, і ў артаграфіі. Цяжка нават сказаць, ці гэта ваганьне, сутаргі, ці разьвіцьцё. Вось прыклад з этнанімікі — Летува/Літва, летувіс/літовец. Добра, што хаця «НН» ня робіць прарыву ў бок Жамойці, добра арыентуючыся што Жамойць ад Вільні таксама далёка, як Менск, нават далей.

І апошняя спроба выглядаць больш па-зўрапейску праз лацінку і набліжэньне да фанэтыкі люду праз скасаваньне літары G, нават у іншамоўных абрэвіятурах (КНВ — ну, гэта КГБ).

Падобнае адбывалася і ў эспэранта — яшчэ да першых народзін «Нашай Нівы», калі рэфарматары спрабавалі наблізіць яе [мову эспэранта. — рэд.] да чалавечых зўрапейскіх моваў, ліквідуючы нейкія артаграфічныя адметнасьці. Вынік гэтай рэформы — мова ido (што азначае дзіцё), лёс якой якбы прароцтва для беларушчыны. Між іншым, тады выкінулі літару й гук x (ch), а ўвялі літару x (ks). Блізка гэтай X (CH) і спроба «Нашай Нівы» ўцьвярдзіць лацінскую H замест G — калі ў мове люду няма такога гуку, дык ня трэба й літары. Хутка, ой хутка забыўся балцкі субстрат — ці гэта не канчатковая капітуляцыя перад русыфікацыяй — форма якбы нацыянальная, але зьмест ужо не тутэйшы. Калі скасавалі літару, пачалі пісаць бяз розьніцы, нават у тых імёнах, дзе ў часы Скарыны старанна захоўвалі розьніцу праз спалучэньне КГ у словах Гедымін, Гервяты, Гедройць. «Наша Ніва» ўдасканаліла Тарашкевіча й напісала Hiedymin, Hierviaty, Hiedrojć. Крайнасьці зьбліжаюцца: як па-расейску бяз розьніцы, так і ў беларускай лацінцы — hihijena, hieahrafija, hiealohija, Anhlija, Arhientyna, Hrecyja, Hvinieja, Hruzija, Hienuja, Hlazha, Hiermanija, Hrenada, raka Hanh, kurort Hahra, hihant, Maksim Horki, halera, але chalera.

Цікава, ці не перанясуць конкурс аб дзяржаўным гімне ў гімназію — hymnazyja, hymnastyka, himan ці hymen, hinekalohija...

І ўсё ж спатычка — на гаэльскай мове — трэба было пісаць haelskaja, а надрукавана — gaelskaja. Калі не палічыліся з балцкім гукам, напароліся на кельцкі. Старадаўняй гаэльскай фанэмы не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

*Новавіленец*

Вельмі Паважаная Рэдакцыя «Н.Н.»

Вашу газэту чытаю зь вялікім задаваленьнем і радуе мяне тое, што правапіс «Н.Н.» гэткі, які я вучыўся у Нямеччыне у 1946 годзе. Гэты правапіс лёгка чытаецца і дае нашай мове мілагучнасьць і праўдзівую вымову нашых слоў. Прачытваючы газэту «Н.Н.», я заўважыў хіб, які Вам можа і не заўважальны ёсьць, бо можа мала сутыкаецеся зь нямецкай ці ангельскай мовай. На мой погляд тут што было перакладзена на польскую мову, а з польскае на беларускую, або расейскі пераклад зь нямецкай пазьней на беларускую. Вось у газэце «Н.Н.» пад загалоўкам (Гера Хельмута) заміж Гэра Гэльмута загаловак апавяданьня «Няхай жывуць Гановэрскія вароны». Калі у арыгінале ёсьць напісана Hier Chielmut дык згаджаюся але калі ёсьць Herr Helmut дык навошта рабіць нейкае дзівоцтва або у іншым апавяданьні з ангельскай мовы Richard Hill у беларускай мове мусела б быць Рыхард або як вымаўляецца (Рычард) Гіл. У ангельскай мове няма літары X, а як гэта яна у беларускай мове з ангельскага перакладу H знайшлася ў «Н.Н.» Каб выказаць гук у ангельскай мове пішуць KH для прыкладу Харкаў — Kharkov Архангельск — Arkhangel'sk. Вось CH у ангельскай мове вымаўляецца як Ч, К, Ш [...] Нямецкае слова Herr хай расеяц кажа Гер (gier) ці Хер (chier) але беларус абавязкова мусіць пісаць Гэр (Her), каб не казалі што гэта прышло у беларускую мову праз польскую ці расейскую. Я заўважыў што расейцы ня маюць літары H (Г), дык заменьваюць літарай X або зусім абміноўваюць літару як Hispania — Іспанія haleluja (алілуя) hosanna (осанна) Ганна (Анна) гатэл (отэль) гэтак і у польскай X як H Halina (Халіна) Hrabia (Храбя) honor (хонор) halota (халота). Але беларус павінен вымаўляць Г (H) так як у слове гэты, (hryb) і.г.д. [...] я хачу каб беларусы не ужывалі дрэннай навычкі, дрэннай вымовы чужых слоў [...]

*З пашанай К.Верабей,*
*Farmingdale, N.Y., ЗША*

# Ода радасьці

Алесь Прускі

**Савецкая прэтэнзія на горад — вось што згубіла гістарычную традыцыю беларускіх гарадоў ды мястэчак. Прэтэнзія, пазбаўленая духоўнасьці, пустая й спусташальная. Прэтэнзія, якая дзіўным чынам вырасла за межамі памяці.**

**Разам з гістарычнай традыцыяй сваіх гарадоў людзі страцілі духоўнае й мастацкае ўвасабленьне свайго шляху, тую ахоўную «пячатку», што сьведчыла сьвету аб іх радавітасьці. Ня ўбачыўшы нас як народ, сьвет не аддаў нам пашаны. Мы ж, не атрымаўшы яе, згубілі веру ў сваё існаваньне.**

**Супраць саветызацыі мы аказаліся найслабейшымі сярод іншых. Мы так і не пасьпелі скласьціся ў нацыю. Мы не пасьпелі спазнаць сябе й сваё — сваю глыбінную радасьць.**

**Наша незапатрабаваная энэргія радасьці была гвалтам уплеценая ў чужую «ідэю». Нам сказалі, што «ідэя» — наша, і мы паверылі. Не пасьпеўшы спазнаць сябе (радасна), мы здрадзілі сабе, пайшлі ў наступ супраць сваёй духоўнай асновы...**

**«Дзяржаўнасьць», якою нас атулілі, ня высьпела духоўна, гэта была дэкарацыя, на тле якой мы гулялі сваю «дзяржаўную» ролю.**

**Не асьвечаны сваім Богам, люд наш рушыў у гарады зь сялянскай «шчырасьцю» і незапатрабаванай энэргіяй, выказваючы бязьмежную гатоўнасьць сказаць «сваё» нясьпелае слова, свой прысуд чужой для яго (бо неспасьцігнутай) гісторыі.**

**Інстытуты гэтае «нашае дзяржавы» складваліся на голым месцы, бо тыя, хто перад рэвалюцыяй выношвалі парасткі свае глыбіннае радасьці ўсьвядомленае нацыі, былі расьціснутыя машынаю тэрору. Іх месцы разам з чужынцамі займалі людзі, якія ня мелі ані свае глебы, ані свае рэлігіі. Адзіным і вырашальным разуменьнем горада для іх быў «дом» пастаўлены на «дом» ды як мага шырэйшы палігон паміж імі, дзе так вольна было чырвоным сьцягам, уплеценым у разбуральную стыхію стваральнае камуністычнае «радасьці». Вось тут мы не адставалі ад іншых — наадварот, як дзікіх, незацугляных сьвядомасьцю коней, нас несла навыперадкі. Ці не таму да сёньня жыве ў нас псыхалёгія «лепшых стартавых магчымасьцяў» у новай (зноў ня намі прыдуманай) перабудове? Сёньняшні «абозны» стан нашых дэмакратычных пераўтварэньняў — вынік усё таго ж хранічнага непрарастаньня сваёй ідэі.**

**«Дом на дом» і палігон... Гэтая няхітрая мэтадалёгія, разбурыўшы вялікія гарады нашы (як ня нашы), хутка была занесеная ў дзівосныя беларускія мястэчкі, дзе мясцовы «пан» ад КПБ сьцьвярджаў сваю спусташальную прэтэнзію на раённую сталіцу...**

**Спустошаны 1000-гадовы Віцебск, зьнявечаны Магілёў, абрабаваны дзяржаўны некалі Полацак, прыніжаныя Наваградак, Нясьвіж, Быхаў, Мазыр, Ружаны, Бабруйск... стаптаныя ўшчэнт Орша, Шклоў, Крычаў..., і нарэшце «ўзвышаны» імпэрскім кляймом Менск — вось вынік шматгадовай сьцяганоснай «радасьці», якою залітыя сьвятыя месцы нашае вялікае й патаптанае гісторыі.**

**І вось, блукаючы ў здабытай адзіноце пэрспэктывамі бездухоўнай геамэтрыі нашых гарадоў, мы (на 3/4 гараджане) на сваёй зямлі ўрэшце зразумелі, што горада ў кожнага з нас быццам і няма.**

**Схіляючыся перад чужымі здабыткамі цывілізацыі, мы імкнемся (як у казку) у чужыя гарады, дзе, спатоліўшы смагу па прыгажосьці й наглытаўшыся ўволю чужое радавітасьці, мы хутка і з раней невядомым сумам адчуваем, што там мы чужыя, а вярнуўшыся дадому разумеем, што, акрамя ўбогага жытла ў мікрараёне, дому ў нас і няма...**

**Няма радасьці яднаньня, няма крылаў за сьпінаю, няма надзеі й веры ў сябе, але ёсьць бездапаможная гатоўнасьць аддаць апошняе — фіктыўную свабоду.**

**Так, ёсьць недзе неўскія берагі ці берагі «Нярыс», але ці ёсьць выратавальныя берагі Сьвіслачы ў Менску? Усё тут створанае мэханічна — ні аўтарства, ні легенды, ні каменя на ўспамін...**

**Мо сапраўды прыйшоў час зьбіраць каменьне? Не ў адзіноце, як спрабуем зрабіць сёньня, калі камень да каменя застаецца амаль чужы, а ўсім бы разам. Не мэханічна — з усёй бы шчырасьцяй душы. Але зьбіраючы — не забыцца б пра лёс Сызыфа...**

# Астралёгія Драздовіча

А.Б.

На рагу Траецкага прадмесьця, як ісьці ад Сьвіслачы, каля лаўкі з посудам зьявіўся новы помнік — Язэпу Драздовічу.

Дзядзька Язэп непрапарцыйна малы на тле двухпавярховай камяніцы, баявіта крочыць наперад.

Мастацкіх галерэяў на Траецкім поўна, і падаецца часам, што ён борза ўцякае адсюль, дзе пахне рэстарацыямі й прастытуткамі, музэем і мастацтвам, заскочыўшы перад гэтым здуру ў майстэрню да вялікага кабетафіла Лёшы Кузьміча.

Сам помнічак бронзавы і, відаць, добра-такі мазоліць вочы камэрсантам ад каляровых мэталаў.

Разам з адкрыцьцём помніка хацелі адчыніць на Траецкім у музэі Максіма Багдановіча выставу твораў Язэпа Драздовіча, ды штосьці не атрымалася, а шкада.

Здарылася зь дзядзькам Язэпам ужо колькі гісторыяў.

Спачатку з адпаліраванага пастамэнту паадвальваліся бронзавыя літары, бо наіўны аўтар пасадзіў іх на эпаксыдку. Некалькі разоў ён зьмяняў зьніклыя літары на іншыя, ужо з падфарбаванага алюмінія, урэшце плюнуў і зьняў усё. Так і крочыць цяпер дзядзька Язэп бяз подпісу, як жывы!

Урэшце, можа гэта й добра. Людзі хоць пытаюцца, а хто гэта такі?

А яшчэ аднаго разу я бачыў, як нейкая спагадлівая ці вясёлая душа павязала яму на шыю вельмі фактурны, падобны на даматканы, шалік. Акурат упісаўся, як бы там і быў.

Пішучы пра помнік Язэпу Драздовічу, згадваю яшчэ адзін, блізкі да гэтага сваёй камэрнасьцю й памерамі — помнічак-каплічку з Максімам Багдановічам, што стаіць каля Беларускай Хаткі.

Вось так і здаецца, што пройдзе зараз дзядзька Язэп праз сьвіслацкі мост на Нямізе, а там зьверне на Маскоўскую — і налева. Падыйдзе да Максіма, які стаіць рахмана прыціснуўшы рукі, і скажа: «Здароў, Максім!»

Але досыць пра помнікі. Пагаворым лепей пра нявыдрукаваныя рукапісы.

Дасюль у Луцкевіцкім архіве, у Вільні, ляжаць сотні старонак Драздовічавых рукапісаў-развагаў аб жыцьці на іншых плянэтах. А ягоныя шматлікія малюнкі й карціны на касьмічную тэму зьяўляюцца, па-сутнасьці ілюстрацыямі, адбіцьцём у жывапісе й графіцы таго, што ён натаваў на паперы. Калі захочам калі-небудзь даведацца пра цэлае — мусім выдрукаваць іх таксама.

А гэты невялікі аркушык, які зьмешчаны тут — цікавая памятка часу. Не адзін мусіць дзядзька Язэп спадзяваўся, што праз якую пару-тройку гадоў настане «трыумф нацыянальна-незалежніцкай ідэі». Ды гісторыя пайшла сваім шляхам, можна сказаць, яна прагрукатала па беларускіх скобах, а «трыумфу» і дасюль яшчэ не відно. Але і ў тым і ёсьць сутнасьць беларускага адраджэнскага руху, што ён ня вынішчаны й здольны працаваць нават пры ўсялякай адсутнасьці пэрспэктываў, як кажуць, да апошняга набою. Так як рабіў гэта дзядзька Язэп.

БУДУЧЫНА БЕЛАРУСІ

З прараакаваньняў беларускага Яснавіда Пушчавіка-Гарадоліча на 3-е дзесяцілецьце XX веку.

Год супакойных выжыданьняў.

1923 — Год беднасьці і часовага заняпаду. Год перацярпліваньняў крыўдаў ад несправядлівасьцяў завісьлівых чужаземцаў.

1924 — Год трывожлівасьці і няпэўнасьці. Год здрадніцкіх падходаў і лжывых запабегаў. Год прадбачаньняў і падгатовак. Год патужлівага настрою і незадаволеньняў.

1925 г. — Год стыхійнага беларускага руху. Год перапоўненага келіху цярплівасьці. Год змаганьня са злом культурна-нацыянальнага ўціску і кабалой крыўдзіцеляў.

1926 г. — Год аканчальнай пабеды пакрыўджаных над крыўдзіцелямі і трыумф нацыянальна-незалежніцкай ідэі. Год аб'яднаньня і салідарнасьці ўваскрэслых і ўваскрасаемых народаў.

1927 г. — Год часовага эканамічнага застою. Год палітыканства і міжнародных непаразуменьняў.

Загадка: 1925 - 1926 - 1927 г.

а/ У гэтых гадах на зямлі беларускай адбудзецца адна буйная палітычная падзея і вечнаю сьведкаю гэтай падзеі будзе адна з вялікіх рэк цякучых на захад сонца.

б/ У гэтыя гады на некаторы нядоўгі час Беларусь акажацца хатай вялікадушнага прыпынку для ўцекачоў — былых ейных ворагаў, пацярпеўшых ад сваіх, праз хатнюю калатніну.

1928 г. — Год зямельнай перабудоўлі.

1929 г. — Год начатку разьвіцьця беларускага джэнтэльменства.

Загадка 1929 году. У гэтым годзе памрэць адзін з найвялікшых беларускіх пісьменьніцкіх талентаў, а для будучыні ў гэтым годзе радзіцца вялікі беларускі нацыянальны дзеяч.

# ЛЯСНОЕ

Паўліна Качаткова

*І загадка стала перад загадкай.*
*Мы ізноў тут няпрычым.*
*Мы разумеем: лес — раздольле,*
*І зь дзікай таямніцай сьпім.*

Янка Юхнавец

## РАНАК

— Час перад сенакосам — найлепшы час, — гаворыць гаспадар хутару. Які жах — час перад сенакосам! Трава высокая, густая, у ёй раскашуюць земляныя жабы, ніводнаму філятоваму званочку яшчэ не адсеклі галавы. Падумаеш пра ўсё гэта й міжволі ўзгадаеш сваю хваробу, якая зёлкамі ня лекуецца.

— Мне таксама даспадобы час перад сенакосам, — адказваю я, — але, здаецца, летась трава тут была вышэйшая...

Роўна год таму тут, на хутары я згубіла каханага. Згубіла назаўсёды — ён ператварыўся ў зьвярка і ўцёк у лес. Звярок быў белы й пухнаты. Вось і ўсё.

## ДЗЕНЬ

Праз год мы вярнуліся на хутар, каб адзначыць вясельле нашай сяброўкі. Пакуль я тут адна — трэба падрыхтавацца да прыезду гасьцей. Яны думалі — буду баяцца. Чаго? Што тут страшнага? Ведала аднаго хлопца, ён пісаў цудоўныя вершы пра каханьне й свабоду, боль і нянавісьць. Я бачыла, як ён праваліўся ў ліўневую каналізацыю... Гэта ўсе ведаюць! Што з таго?

Думаю, майму каханаму добра ў лесе. Ён заўсёды пачуваўся няўтульна сярод людзей, было ў ягонай істоце штосьці цяжкое й панурае... Ваду, каб мыць падлогу, цягаю вёдрамі ад стаўка — «чароўнага возера». Іду зь вядром па лесе й думаю, што амаль нічога апошнім часам не чытаю. Затое памяць палепшала, калі ўжо што прачытала — не забуду. Напрыклад: «Істота з аблічкам чалавека, пазбаўленая ўсялякай духоўнасьці й маралі... Вы ня хочаце ведаць і чуць пра яго? З жахам уяўляеце, што ваша дачка можа сустрэцца з такім? Не заплюшчвайце вочы! Ён ёсьць!» Гэта з артыкула пра маладую беларускую літаратуру. Я згодная з аўтарам: нашмат больш прыемна напаткаць чалавека ў абліччы лясной істоты. І бацькі ня будуць у жаху.

Букетам палявых званочкаў у цёмна -зялёнай пляшцы з-пад алжырскага віна ўпрыгожваю пакой для маладых. Пляшку адмыла ад пылу ў стаўку. Ня ведаю, можа там сапраўды чароўная вада? А пляшка засталася зь мінулага году. Помню, як набывалі алжырскае ў мястэчку, у краме каля жыдоўскіх могілак.

Выношу з хаты й раскладаю на траве матрацы — хай прасохнуць, пакуль сонца...

Вось так.

## ЧАС ЗЬМЯРКАНЬНЯ

Змрок паўзе да хаты зь лесу. Уяўляю: у гэты час мой каханы выходзіць на лясную сьцежку, прыслухоўваецца, прынюхваецца й выпраўляецца ў начныя паходы. Праз вакно бачу нашых сяброў, яны праходзяць адзін за адным у густой, высокай траве. Прыехалі. Нарэшце. Зараз пачнецца сьвята. Сьвята на хутары.

Усё будзе добра.

## НОЧ

Што там ляснула?

Гэта мае сябры Сава з Казлом саскочылі з шафы. Шафа — ня печка, на ёй ня кожны спаць можа. А што рабіць, калі месца ўсім не хапае? На стале дагарае зялёная сьвечка. Хочацца паліць, ды няма чаго. Казёл паказвае на мяне пальцам:

— Паглядзі, я яе зь дзявятае клясы ведаў. Тады яна здавалася мне анёлам.

— Я й цяпер анёл.

— А дзе твае крылы? — пытаецца Сава. Совы ведаюць: у каго павінны быць крылы, у каго — не. Разьбіраюцца.

— Пачакайце, зараз прадэманструю, — я выходжу з хаты.

Хто ня быў хворы — ня ведае...

Хвароба, як неадчэпны сьцень.

Цёмна, зусім цёмна. Крапіва каля ганку — увасабленьне мужнасьці, уся зьмятая й прытаптаная. А на забытым у траве матрацы сядзіць зьвярок — брудны й калматы. Выйшаў зь лесу. Цяпер сядзіць на матрацы й мыецца: цярэ лапкамі пысу, вушкі, абтрасае поўсьць. Так хутка-хуценька чысьціцца, нават не зірне на мяне... Ні разу.

Час перад сенакосам — цудоўны час, той час, калі спаўняюцца жаданьні.



# КАМЕНЬ, ЯКІ РАСЬЦЕ

*Працяг са старонкі*

нарэшце таксама, апошні, вынырнуў зь цемры й водаў. Калі паром падыйшоў бліжэй, мужчына, што стаяў на беразе, заўважыў на дальнім яго канцы, за павецьцю, яшчэ двух высокіх нэграў, якія таксама былі ў шырокіх саламяных капелюшах і ў штанах зь цёмна-шэрага палатна. Стоячы амаль плячо ў плячо, нэгры ўсімі мускуламі налягалі на шасты, якія павольна зануралiся ў раку за плытом, а яны, гэткім жа роўным, запаволеным рухам, нахіляліся над вадой, колькі ставала раўнавагі. Тры мулаты наперадзе нерухома й моўчкі глядзелі, як да іх набліжаецца бераг, ні разу не падняўшы вачэй на таго, хто іх там чакаў. Раптам паром уцяўся аб край прычала, што выдаваўся ў раку й толькі цяпер трапіў у сьвятло ліхтара, які загойдаўся ад удару. Магутныя нэгры зьнерухомелі, задраўшы ўгору рукі і ўчапіўшыся ў шасты, якія толькі трошкі ўвайшлі ў ваду. Па іх напружаных мускулах прабягала дрыготка, якая нібыта йшла ад самой ракі й яе важкога напору. Тры іншыя перавозчыкі накінулі на слупкі на прычале доўгія ланцугі, саскочылі з парому й насунулі на яго нешта накшталт груба скалочанага апускнога моста, які пакрыў плыт сьпераду роўным пахілым шчытом.

Пакуль шафёр запускаў рухавік, мужчына вярнуўся да машыны й сеў. Машына павольі рушыла да адхону, задралася капотам у неба, потым нырнула ўніз і пачала спускацца. Паціху пасоўваючыся на тармазах, яна крыху коўзалася па гразі, спынялася, кратала зноў і нарэшце, пад перастук хісткіх дошак, узьехала на прычал. Падруліўшы да краю, на якім, па-ранейшаму моўчкі, з абодвух бакоў выстраіліся мулаты, яна мякка накаціла на плыт. Як толькі пярэднія колы дакрануліся да яго, плыт нырнуў носам у ваду, але амаль адразу ўсплыў зноў, прымаючы ўвесь цяжар аўтамабіля. Тады шафёр адагнаў машыну на карму й паставіў каля квадратнай павеці, пад якою сьвяціў ліхтар. Мулаты адразу адкінулі памост на прычал і, спрытна пераскочыўшы на паром, тым жа рухам адштурхнулі яго ад багністага берага. Рака ўздыбілася пад плытом, узьняла яго на сваіх водах і павольі панесла на доўгім повадзе, змацаваным з жалезнаю штангай, якая таксама цяпер паплыла ў небе ўздоўж мэталічнага троса. Два чорныя асілкі нарэшце паслабілі напружанасьць у руках і падабралі шасты. Мужчына з шафёрам выйшлі з машыны й нерухома сталі на краю плыта тварам супраць цячэньня. Пакуль ішла пасадка, ніхто не прамовіў ні слова, і цяпер усе па-ранейшаму нерухома й моўчкі яшчэ заставаліся на сваіх месцах, апроч аднаго высокага нэгра, які скручваў сабе цыгарку з грубай паперы. Чалавек глядзеў на прагал вялікага бразыльскага лесу, зь якога ўзнікала й каціла да іх рака. У гэтым месцы яна была шырынёю ў некалькі соцень мэтраў, яе каламутныя, цьмяныя воды напіналі на бок парому й, вызваліўшыся з двух канцоў, зноў расьцякаліся магутнаю роўнаю плыньню, якая ймкнула скрозь змрочны лес насустрач мору й ночы. Затхлы водар вады й набрынялага вільгацьцю неба лунаў у паветры. Пад паромам цяжка плёхкалася вада, і раз-пораз зь берагоў даляталі гучныя поклічы рагатых рапух і крыкі невядомых птушак. Асілак падыйшоў і спыніўся каля шафёра. Худы й маленькі, той стаяў, абапершыся аб бамбукавую жардзіну і ўсунуўшы кулакі ў кішэні свайго некалі сіняга камбінэзону, зацярушанага цяпер шчыльным рудым пылам, які ім давялося глытаць увесь дзень. З усьмешкаю, застылай на маршчакаватым, хоць яшчэ й маладым твары, ён глядзеў невідушчым позіркам на палінялыя зоркі, якія плавалі ў адсырэлым небе.

Птушыныя крыкі пачуліся нарэшце выразьней, да іх прымяшалася нейкае дзіўнае сакатаньне, і, амаль у тую ж хвіліну, трос зарыпеў. Два высокія нэгры занурылі ў раку шасты й сьляпымі рухамі пачалі намацваць дно. Чалавек азірнуўся на бераг, які яны нядаўна пакінулі. Цяпер ён ужо схаваўся за цемрай і водамі, бязьмежны й дзікі, як цэлы кантынэнт вялікага дрэўнага царства, што шырылася на тысячы кілямэтраў вакол. Паміж зусім недалёкім адсюль акіянам і гэтым морам расьлін невялікая жменька людзей на плыце пасярод дзікай ракі здавалася зусім згубленаю. І калі паром ударыўся аб прычал на другім беразе, было такое ўражаньне, нібыта яны, пасьля доўгіх дзён трывожнага плаваньня, раптам, на поўных ветразях, наляцелі на невядомы, прыхаваны моракам востраў.

Калі яны ступілі на цьвёрды грунт, нарэшце пачуліся чалавечыя галасы. Шафёр ужо разьлічыўся, і людзі, нечакана вясёлымі ў гэтай цяжкай начы галасамі, разьвіталіся па-партугальску з машынай, у якой ужо быў запушчаны рухавік.

— Яны казалі, да Ігуапы шэсьцьдзесят кілямэтраў. Тры гадзіны едзеш, і ўсё. Сакрат рады, — паведаміў шафёр.

Чалавек шчыра засьмяяўся густым і цёплым сьмехам, які стасаваўся зь ягонай камплекцыяй.

— І я, Сакраце, я таксама рады. Дарога вельмі цяжкая.

— Вельмі цяжкая, пане д'Ара. І ты вельмі цяжкі, — і шафёр таксама засьмяяўся нястрымным сьмехам.

Машына пакрысе набрала хуткасьці й каціла паміж дзьвюма высокімі сьценамі дрэваў, шчыльна аплеценых разбуялай расьліннасьцю, ахутаная волкім, саладжавым паветрам. Лясны змрок безупынна расьсякалі сьвятлівыя мушкі, і раз-пораз у ветравую шыбу ўразаліся нейкія дзіўныя птушкі з чырвонымі вачыма. Часам з начной глыбіні далятаў гучны незнаёмы рык, і шафёр, зірнуўшы на свайго суседа, камічна закочваў вочы.

Дарога круціла ўлева і ўправа, перасякала рачулкі па хісткіх дашчаных мастках. Праз гадзіну туман пачаў прыкметна гусьцець. Зацерушыла дробная імжа, расьсейваючы сьвятло фараў. Д'Ара, нягледзячы на траску на выбоінах, драмаў. Ён быў ужо ня ў гэтым

## ГАЛАСЫ З ПУСТОГА ПАКОЮ

**Сьвятлана Алексіевіч. Зачараваныя сьмерцю. — Менск: Беларусь, 1993**

«Я безнадзейна ўлюбёная ў рэчаіснасьць», — прызналася ў прадмове да сваёй кнігі Сьвятлана Алексіевіч. Гэтаму можна верыць. Жанар «мастацкае дакумэнталістыкі», у якім столькі часу працуе аўтарка, проста немагчымы без асаблівых — глыбокіх ды інтымных — адносінаў з тым, што завецца «жыцьцём». Услухоўвацца ў жыцьцё, трымацца за жыцьцё, любіць, разумець, занатоўваць жыцьцё — усё гэта можа быць яшчэ больш моцным наркотыкам, чым такія рэчы як мара, уяўленьне, сон, фантазія.

Але ў апошнім праекце — «Зачараваныя сьмерцю» — звыклая й накатаная мэханіка жанру раптам дала збой. Прычым не па віне аўтаркі, а па віне жыцьця. Жыцьцё, рэчаіснасьць, да якой так хілілася, якой так давярала Сьвятлана Алексіевіч, раптам увайшла ў зону катастофаў, у зону высокай энэргіі распаду. Савецкая рэчаіснасьць, нібы Атлянтыда, апускаецца на дно гісторыі. Побач паўстае нешта новае, і ўжо цяжка зразумець, дзе ўяўленае, а дзе сапраўднае, рэчаіснае.

Гэта хіба што першая кніга Сьвятланы Алексіевіч, якую нецікава чытаць. Прадмет аўтарскага дасьледаваньня — «людзі ідэі, што вырасьлі ў гэтай культуры й ня вынесьлі яе крушэньня» — гавораць не сваімі галасамі. Да таго ж з ужо пустога пакою. Нават перад сьмерцю яны ня могуць намацаць сваю сапраўдную экзыстэнцыю й бясконца пракручваюць адну й тую ж кружэлку: мы верылі, нас падманулі. Аніхто ня кажа: мы думалі, мы любілі, мы спрабавалі.

А напрыканцы кнігі мне раптам стала крыўдна за... сьмерць. Сьмерць — гэта ня тое, што наперадзе. Гэта хутчэй дзьверы, што заўсёды побач. Гэта досьвед, што цябе вызваляе, дорыць табе сапраўднасьць. Пра гэта ведаюць філёзафы й паэты — яны й адно яны па-сапраўднаму «зачараваныя сьмерцю».

А камунізм ня ведае сьмерці.

Ён ведае толькі забойства.

Так што *«сьмерць — наш чалавек»*.

Стывэн Д.

## НЕКАТОРЫЯ ВАРТАСЬЦІ ВЕРШАЎ БЫЛОГА ВАРТАЎНІКА

**Ігар Бабкоў. Solus Rex. — Менск: Мастацкая літаратура, 1992.**

Зусім нядаўна, на парозе руйнаваньня савецкай імпэрыі, вобраз вартаўніка быў ледзь ня тоесны постаці філёзафа. Мусіць таму кожны брамнік, ліфцёр, ахоўнік, прыбіральшчык, наглядчык лічыў сябе каралём. Але, між іншым, зазначу, што ў беларускай гутарцы лацінскае *Rex* бліжэй да вартаўнічае будкі, чым да каралеўскіх палацаў і калідораў Дому ўраду, і гэта важна, бо, прамовіўшы на тутэйшых тэрыторыях *Rex*, пачуеш брэх.

Часы, як і належыць часам, мяняюцца; былы вартаўнік Ігар Бабкоў вярнуўся ва ўнівэрсытэцкую філязофію, толькі вярнуўся ён не з вартаўнічага будана, а са Скарынаўскага навукова-дасьледнага цэнтру, і ў руках ён трымаў ужо не вартаўнічую стрэльбу, а мяккую, танюткую, чарнаскурую кніжачку вершаў, імпрэсій ды калёквіюмаў. Чорная кніжачка, размаляваная экспрэсіўнай рукой Кашкурэвіча наймалодшага, нагадала мне паўразьбітыя помнікі з Кальварыйскіх могілак у Менску, і не выпадкова, бо матыў сьмерці асноўны, хрыбетны, восевы ў кнізе Бабкова...

*Ягоныя кветкі заўсёды красуюць увосень, цьмяна-барвовымі фарбамі плёну і адчаю, крыху падсьветленыя пашарэлымі бялілами сьмерці* ("Бадлер").

*Жалезныя боты вандроўніка і засяроджаная падрыхтаванасьць да сьмерці* ("Акутагава").

*... рукі твае — халаднейшыя за нішто / Пасьцеляць сьмерць нібы песьню...* ("Фуга цёмнага часу").

Вобраз сьмерці працяў першую Ігараву кнігу наскрозь, як сталёвы шампур праціне кавалкі нежывое плоці, як стрэл вартаўніка праціне цішу ахоўнай тэрыторыі...

*... звыкайся / быць мерцьвяком / звыкайся / сьляпымі вачніцамі зеўрыць...* ("Solus Rex").

Нечакана, прынамсі для беларускай кніжкі, прагучала формула: ВЕРА, НАДЗЕЯ, СКОН ("Фрагмэнты"), — пасьля такой звыклай, узаконенай папярэднікамі, надзейнай, як падмурак: Вера, Надзея, Любоў! Але за чорным ёсьць белае, за ІНЬ ёсьць ЯН, і аўтар «Самотнага Караля», ведаючы пра адзінства й барацьбу, назірае праз сваё «я» *«сьветлы тапельцаў рай»* у лепшым сваім вершы...

*Лотаці жоўты сон / Сьветлы тапельцаў рай / Веяў, вуснаў Эдэм / На залатое дно*

Вось ён Рай — прытулак каханкаў. Хто з нас, закаханых, не хацеў бы памерці зь любаю ў адзін дзень, каб душы зьліліся ў вечным палёце над Кальварыйскімі шатамі такога жывога памідорнага й гарбузовага колеру. Ёсьць каханьне, ёсьць верш, ёсьць сьмерць...

*... толькі тут мы дома / Сярод пахаваных магіл ды забытых багоў...* ("За небакраем Эўропы").

Раптоўна робіцца прыкра ад мноства дробных і незабытых багоў, што запоўнілі *тэрыторыю ночы* мяккацелай кніжачкі. Крыўдна, спадар Бабкоў, са шматгадовым вопытам вартаўніка трэба лепш ахоўваць абсягі першай кнігі паэта. А то панапускалі...

*... Божухна мой, няўгледжаны, злы, шэравокі...* ("Дзень, нібы дрэва, лістотай сваёй ападае...").

*... І Мойры, выткаўшы сьляпога лёсу ніць...* ("Лістота шорхая віруе ў цішыні...").

Трэба, вядома, нітка лёсу, а ня *лёсу ніць*, але ня ў тым сутнасьць, я пра іншае — пра колькасьць багоў...

*... І ў душы — агнёў паганскіх цяпло* ("Выспа, людзкі паратунак, неакрэсьлены тут твае межы...").

*Нішто не гаворыць тут / аб распнутым Хрысьце / сьвет дасканалы...* ("Нішто не гаворыць тут...").

Іх шмат, як у міталягічным слоўніку. Багі Бабкова топчуцца адзін аднаму па нагах, быццам і не Багі яны, а тралейбусныя пасажыры, што едуць у спачывальныя раёны Чыжоўкі й Серабранкі.

Бабкоў — паэт зь нявызначаным веравызнаньнем, без партыйнага білету й без партыйнай мянушкі. Жартам ён можа сказаць, што будыст ці дзэн будыст, але гэта ж жарт. Ён ведае: я нішто перад Вечнасьцю, але ў такім разе й вечнасьць для мяне Нішто.

Таму лёгка дараваць яму расхрыстаны паРазанаўску сынтакс і нятрапныя скарачэньні «у». Таму варта адзначыць такі сьвежы ў нас унівэрсытызм Эліёта, што сьвеціцца праз радок: *«... пакрочым невымоўнасьцю, нямотай на плошчу St.-Michel...»* І варта падкрэсьліць прозьвішча Паунд у вершы "Зіма", і трэба ўбачыць сонечна-сымбалічную свастыку на апошняй старонцы вокладкі.

*P.S.* Засталося сказаць, што вельмі лёгка пісаць рэцэнзіі на кнігі, якія амаль ніхто не чытаў з-за іх мізэрнага тыражу. Зрэшты, 300 асобнікаў, вядома, болей, чым 3.

*P.P.S.* У маім паэтычным жыцьці былі два вялікія расчараваньні... Першае: калі зразумеў, зь якімі каля-паэтамі давядзецца пражыць усё жыцьцё. Другое: калі ўбачыў, што наступнікі ня лепшыя за папярэднікаў. Дзякуй Богу, ні першае, ні другое расчараваньне ніякім чынам не зьнітаваныя з кнігай Ігара Бабкова *«Solus Rex»*.

Адольф

## ПЛЯЦ НЯВОЛІ

**Ніл Гілевіч. Выбар; Сяргей Законьнікаў. Беларускае сэрца. — Менск: Беларусь, 1993. Сэрыя «Плошча Свабоды»**

У дадзеным выпадку найбольшую цікавасьць выклікае не публіцыстыка Н.Гілевіча й С.Законьнікава, а лёс выдавецкай сэрыі «Плошча Свабоды». Яна была задуманая колькі гадоў таму ў якасьці «гарачага мікрафону», праз які дэмакратычная інтэлігенцыя магла б непасрэдна ўплываць на чытачоў і ўвогуле на грамадзкую думку. Апошнія кніжкі пераўтвараюць гэты праект у іншы, які мог бы называцца «Архіў Беларускага Адраджэньня».

У чым рэч? Ці гэта проста няўдзячны лёс самой публіцыстыкі як жанру, у якім тэксты старэюць ды губляюць сваю актуальнасьць з катастрафічнай хуткасьцю, — альбо якасьць «аўтарскага» бачаньня, якое няздольнае намацаць ды выявіць стрыжнявыя праблемы грамадзтва? Адказы могуць быць розныя, але факт застаецца фактам, — годная й пэрспэктыўная задума вызваленьня беларускае думкі ў 1993 годзе знайшла сябе на руінах.

Зрэшты, на руінах знаходзіць сябе й само беларускае мысьленьне. Ягоная ідэалягічна-публіцыстычная дамінанта так і не сфармавалася. *Беларускі шлях* ды *беларускі парадак* пакуль застаюцца аб'ектам паэтычных мэдытацыяў ды мэтафізычных прадчуваньняў, якія пакуль немагчыма ўцямна перакласьці на мову ясных і празрыстых ідэалягічных формулаў. Адсюль — беларуская публіцыстыка больш чэрпае з рыторыкі, чым з разуменьня таго, што адбываецца. Аграмадная прастора — паміж рэальнымі палітыкамі, якім няма часу пісаць публіцыстыку — і сапраўднымі паэтамі, якія аніколі ня здолеюць пераступіць межы жанру — уся гэтая прастора запоўненая сёньня тэкстамі другога гатунку.

Дадатак: кароткая інструкцыя рэдактару сэрыі В.Ц.Вольскаму.

1. Арыентавацца не на намэнклятуру прозьвішчаў, а на якасьць тэкстаў. «Імя» набываецца, а якасьць тэксту — гэта назаўсёды.

2. Уяўляць аўдыторыю. Публіцыстыка правальваецца, калі яна пачынае пераконваць «даўно пераконаных».

3. Не друкаваць у 1993 годзе прамовы Ніла Гілевіча 1967 году.

4. Жыве Беларусь.

Алесь Гудбай

---

вільготным лесе, а зноў каціў па дарогах Сэры, на якіх яны правялі ўвесь дзень ад самага ранку, калі выехалі з Сан-Паўла. Над грунтовымі дарогамі безупынку падымаліся хмары рудога пылу, смак якога й цяпер яшчэ адчуваўся ў роце; пыл асядаў на зямлю, пакрываючы зьлева й справа, колькі хапала вачэй, усю рэдкую стэпавую расьліннасьць. Цяжкае сонца, палінялыя, парэзаныя ярамі горы й, уздоўж дарог, згаладалыя зэбу зь нязьменнымі сваймі спадарожнікамі, змардаванымі ад пералётаў грыфамі-урубу: доўгаедоўгае плаваньне па чырвонай пустэльні... Ён уздрыгнуў. Машына стаяла. Яны апынуліся ў Японіі: абапал дарогі стаялі хаткі, аздобленыя тонкай разьбой, і за іх вокнамі мільгалі постаці ў кімано. Шафёр гаманіў зь японцам у брудным камбінэзоне й саламяным бразыльскім капелюшы. Неўзабаве машына рушыла далей.

— Ён кажа, усяго кілямэтраў сорак.

— Дзе гэта мы былі? У Токіё?

— Не, у Рэгістра. У нас усе японцы прыяжджаюць сюды.

— Чаму?

— Хто іх ведае. Яны ж жоўтыя, ведаеш, пане д'Ара.

Лес крыху пасьвятлеў, і дарога пайшла лягчэй, хоць была яшчэ сьлізкая. Машыну заносіла на пяску. Праз вакенцы ўлятаў волкі, цёплы і трошкі гаркавы ветрык.

— Адчуваеш? — задаволена прамовіў шафёр. — Гэта мора. Хутка Ігуана.

— Калі хопіць бэнзыну, — азваўся д'Ара. І зноў ціхамірна заснуў.

На сьвітанку д'Ара, седзячы ў ложку, зьдзіўлена агледзеў залу, у якой толькі што прачнуўся. Яе высокія сьцены да сярэдзіны былі нядаўна вымазаныя бураю глінкай. Вышэй, белая фарба, пакладзеная ў вельмі аддаленыя часы, зьвісала жоўтымі лахманамі да самае столі. Адзін насупраць аднаго тут стаялі два шэрагі па шэсьць ложкаў. І толькі на адным, у самым канцы ягонага шэрагу, пасьцель таксама была разабраная, але нікога ў ім не было. Раптам зьлева пачуўся шум, і, азірнуўшыся да дзьвярэй, д'Ара ўбачыў Сакрата, які, сьмеючыся, стаяў, трымаючы ў кожнай руцэ па бутэльцы зь мінэральнай вадой.

— Шчасьлівы ўспамін! — сказаў ён.

Д'Ара схамянуўся, вяртаючыся да рэальнасьці. Сапраўды, шпіталь, у якім іх прытуліў на нач мэр, называўся «Шчасьлівы ўспамін».

— Пэўна, успамін,— пацьвердзіў Сакрат.— Яны казалі мне: спачатку будаваць шпіталь, потым будаваць вадаправод. А пакуль, шчасьлівы ўспамін. На вось — калючай вады табе памыцца.

Сьмеючыся й нешта напяваючы, ён пайшоў прэч, з выгляду зусім ня стомлены тым жудасным чханьнем, што скаланала яго ўсю ноч і не давала д'Ара зьмежыць вачэй.

Д'Ара ўжо канчаткова прачнуўся. Ён глядзеў на невялічкі двор за кратаванымі вокнамі. Чырвоная глеба была ўся прамоклая ад дажджу, што й цяпер яшчэ церушыў, паліваючы высокія кусты альясу. Праз двор прайшла нейкая кабета, кончыкамі пальцаў трымаючы над галавой жоўтую хустку. Д'Ара хацеў быў прылегчы зноў, але тут жа падняўся й спусьціў ногі з ложка, які прагнуўся й зарыпеў пад яго цяжарам. У тую ж хвіліну вярнуўся Сакрат.

— Там па цябе, пане д'Ара, — сказаў ён. — Мэр чакае на двары.

І ўбачыўшы ўражаньне, якое зрабілі на д'Ара ягоныя словы, дадаў:

— Не хвалюйся, гэты ніколі не сьпяшаецца.

Пагаліўшыся зь мінэральнай валой, д'Ара выйшаў на ганак, дзе пад невялічкім дашкам яго чакаў мэр. Ростам і выглядам, што давалі яму акуляры ў залатой аправе, мэр нагадваў паслужлівую ласку. Здавалася, ён быў цалкам засяроджаны змрочным сузіраньнем дажджу, але, як толькі ўбачыў д'Ара, увесь засьвяціўся прыязнай усьмешкай. Напружыўшыся ўсім целам, ён пасьпешліва ступіў насустрач і пастараўся абхапіць сваімі маленькімі ручкамі магутны торс «пана інжынэра». Якраз у гэты момант, насупраць, за невысокай агароджай, якою быў абнесены двор, прытармазіў і, праехаўшы па раскіслай гліне, неяк наўскасяк спыніўся аўтамабіль.

— Судзьдзя! — паведаміў мэр.

Як і мэр, судзьдзя быў апрануты ў гарнітур цёмна-сіняга колеру, але быў ці, прынамсі, здаваўся нашмат маладзейшым, дзякуючы зграбнай фігуры й сьвежаму твару зьдзіўленага падлетка. Элегантна абмінаючы лужыны, ён ужо шыбаваў праз двор і, яшчэ за некалькі крокаў ад д'Ара выкінуўшы наперад руку, пачаў прывітаць інжынэра. Ён быў рады прымаць спадара інжынэра, які сваім прыездам робіць вялікі гонар яго беднаму гораду; ён вельмі ўсьцешаны той неацэннай паслугай, якую пан інжынэр зробіць Ігуапе, пабудаваўшы невялікую дамбу, якая абаражэ ніжнія кварталы ад пэрыядычных навадненьняў. Загадваць водамі, утаймоўваць рэкі! Ах, якое вялікае рамяство! І безумоўна, бедныя жыхары Ігуапы назаўжды захаваюць у памяці імя пана інжынэра і яшчэ доўгія гады будуць прамаўляць яго ў сваіх малітвах. Пераможаны такім красамоўствам, д'Ара падзякаваў судзьдзі й не адважыўся папытацца, якое, уласна, ён як судзьдзя можа мець дачыненьне да дамбы. Зрэшты, трэба было сьпяшацца ў клюб, дзе, паводле мэравых словаў, раней, чым выправіцца на агляд ніжніх кварталаў, знакамітыя людзі горада мелися даць у гонар пана інжынэра ўрачысты прыём. Якія знакамітыя людзі?

*Працяг на старонцы 8*

## «АЛЕ ЛОТАС ПАЎСТАЎ ЯК СЬЦЯНА...»

**Анэля Тулупава. Я чакаю цябе. — Менск: Мастацкая літаратура, 1993;**

**Людміла Паўлікава. Купаньне ў росах. — Менск: Мастацкая літаратура, 1993.**

«Сьвядомасьць нацыі, вытокі чалавечага духу — асноўная тэматыка новай кнігі Людмілы Паўлікавай».

«Кніга пра тое, чым жыве чалавечая душа, да чаго яна мкнецца, ад чаго пакутуе» (Анэля Тулупава).

Дыяпазон Пульхнае Жаночае Паэзіі, якую годна прадстаўляюць дзьве вышэйназваныя аўтаркі — бязьмежны. Цяжка сабе ўявіць тэму, якая не магла б быць вычарпаная (альбо наадварот, запоўненая) праз гэтую Амазонку «завершаных» тэкстаў. Тут і філязофскія роздумы: «Ёсьць час, калі мяняецца душа / Адзіная душа ўсяго народа... / Што нам сыпнуць зь Вялікага Каўша / Ці стане нашай хроснаю Прырода?» (А.Тулупава) і сюррэалістычныя прыпеўкі: «Праўда пританцоўваючы, / падыйшла да ілжы: / — Дакажы, што ты праўда, / ілжа, дакажы!» (Л.Паўлікава) — і шмат чаго іншага.

Характэрнымі рысамі Пульхнае Жаночае Паэзіі ёсьць прыблізнасьць ды неабавязковасьць мэтафары, адсутнасьць працы са словам, размазваньне паэтычнае эмоцыі па бясконцых прасторах квазіпаэтычных тэкстаў. У адрозьненьне ад мужчынскае імітацыйнае паэзіі, якая звычайна паразытуе на «актуальным» ды «відавочным», жаночая паэзія зьвяртаецца да «адвечна жаночага». Адвечнае, яно й ёсьць адвечнае — зь ім не паспрачаесься. Спрачацца можна з тэкстамі.

Тэксты гэтай кнігі ня ёсьць падзеяй беларускай паэзіі. Яны ёсьць вынікам дасюль бесьперапыннае працы «літканвэера»: пісьменьнік — выдавецтва — кнігагандаль, які даўно працуе «на склад».

Алесь Гудбай

## НА ДЗЬВЮХ МОВАХ

**Курапаты. Менск—Ню-Ёрк: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1993. [141 с.]**

Прызнаюся, назіраючы за цяжкім і доўгім шляхам, якім рукапіс ішоў да кнігі, я быў пачаў шкадаваць: плён сапраўды гераічнае працы аўтараў зойме сваё сьціплае месца на запыленых паліцах кнігасховішчаў, цікавячы час ад часу толькі гісторыкаў-прафэсіяналаў, бо што ж — калі кніга выйдзе, людзі ўжо й забудуцца, хто такія камуністы, жыцьцё пойдзе наперад і СССР станецца назаўсёды перагорнутай старонкай. Аднак жа рэальнасьць даводзіць, што катэгорыя часу ў Беларусі падпарадкоўваецца зусім іншым, чым у астатнім сьвеце, законам. Час тут можа й спыніцца, а можа й пацячы назад або прынамсі ўбок. Таму з жахам даводзіцца канстатаваць: выдадзеная БІНіМам кніга зусім не спазьнілася й сёньня як ніколі актуальная: камунізм на момант схаваўся й цяпер зноў вылазіць з усіх шчылінаў. Асабліваe каштоўнасьці кнізе дадае ангельскі пераклад: пэўна, наведваючы Курапаты, Б.Клінтан ужо дэтальна ведаў што там да чаго. Моцна ўражваюць ілюстрацыі — дзякуючы ім, жах Курапатаў эмацыянальна ўспрымаецца ў адным шэрагу зь іншымі страшнымі «мясарубкамі» нашых часоў — нямецкімі лягерамі сьмерці, або палпотаўскай прачысткай Камбоджы.

Архіварыюс

## ЯШЧЭ НЯ ЎСЁ КРЫНІЦАЗНАЎСТВА

**Тэзысы міжнароднай навукова-тэарэтычнай канфэрэнцыі «Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гісторыяграфія Беларусі: стан і пэрспэктывы». 1-2 сьнежня 1993 г. Менск, 1993.**

Факт падобнай канфэрэнцыі значны для беларускіх гісторыкаў. Нібы адбываецца прарыў у сфэры тэхналёгій. Між тым сама кніжка тэзаў рассыпаецца на мноства аскялёпкаў, і ня ўсе хочацца падымаць зь зямлі. Няхай яны там і ляжаць кучай хлуду, створанага ў сваёй бальшыні былымі супрацоўнікамі Гістпарту. Калі ж Валянцін Грыцкевіч у Санкт-Пецярбурзе распрацоўвае курс беларускага крыніцазнаўства, яго сюды не запрашаюць. Але самыя якасныя матэрыялы тут заяўляюць пра эўрыстыку, пра пошук. Праўда, яны яшчэ бясконца вераць аўтарам крыніц. Усё ж слова пра крыніцазнаўства сказана. І можна чакаць, што ад вывучэньня асобных бакоў помнікаў адбудзецца падыход да агульнай ацэнкі крыніцы альбо крыніцазнаўчага сынтэзу. Можа, гэта будуць наступная канфэрэнцыя й наступныя тэзы.

Ян Грэчыц

## КНІГА СКАРБАЎ

**Archäologische Schätze aus Litauen. Begleitband zur gleichnamigen Ausstellung. Duisburg — Regensburg, 1993. 136 S.**

У Дуйзбургу й Рэгензбургу на працягу 1992—1993 гг. адбыліся выставы пад назваю «Археалягічныя скарбы Літвы», наладжаныя сумесна зь Літоўскім гісторыка-этнаграфічным музэем у Вільні. Кніжку (паўальбом-паўзборнік) пад назваю, аналягічнай назьве выставы, выдалі немцы.

Калі апісваюцца фантастычныя фібулы балтаў, дык гэта ўсё праходзіць пад годлам «Балты — ранейшыя суседзі германцаў». Палова ж «Скарбу» аддадзеная найкаштоўнейшаму дыямэнту Літвы — Вільні. Закранаецца й XX стагодзьдзе. У аповядзе аб гісторыі Гісторыка-этнаграфічнага музэю называюцца ўсе фонды, зь якіх была сфармаваная калекцыя музэю. Праўда, акрамя Беларускага музэю імя І.Луцкевіча.

Літоўцы інакш чым беларусы шукалі сэрца сваёй краіны. Для іх не была актуальнаю праблема «геаграфічнага цэнтру». Вільня была за межамі Літоўскай рэспублікі. І сёньня сталіца знаходзіцца на паўднёва-ўсходнім ускрайку краіны.

Нягледзячы на ўсю сур'ёзнасьць гэтых праблемаў, чамусьці запамінаеш адну кафлю печ. XVI ст. зь вялікакняскага замку — зайцы смажаць на вогнішчы паляўнічага.

Ян Грэчыц



## КНІЖКА МАРАЎ

**Субтельний Орест. Україна: історія / Пер. з анг. - 3 вид., перероб. і доп. - Київ: Либідь, 1993. 720 с.: іл.**

Тое, што кніжка напісаная канадыйскім прафэсарам, украінцам паводле паходжаньня, прадвызначыла шмат якія яе перавагі. Іх няпроста адчуць тым, чыя гістарычная сьвядомасьць дэфармаваная вучэньнем аб грамадзка-эканамічных фармацыях. Затое звышзадача кнігі — выклад у адным томе тысячагадовай гісторыі Ўкраіны — прадугледжвае пакручасты шлях і небясьпеку схематызму. Не прымаючы марксысцкі дэтэрмінізм як прадвызначанасьць, аўтар ня згодны й з канцэпцыяй вывучэньня гісторыі як найперш працэсу тварэньня дзяржавы. Тым больш для такога ўсходне-эўрапейскага народу як украінцы, чыя гісторыя ведала стагодзьдзі адсутнасьці дзяржавы. Для Арэста Субтэльнага «стрыжань гісторыі» — гэта досьвед, назапашаны пэўнай этнічнай супольнасьцю, якая насяляе зямлю сваіх продкаў.

Дзіўная рэч — у народаў з найбольш блізкімі сёньня афіцыйнымі літаратурнымі мовамі зусім няма ў мінулым узаемадзеяньня. Можна казаць хутчэй пра беларуска-ўкраінскія паралелі. А калі сапраўды параўноўваць, дык ствараецца ўражаньне маскараду. Для ўкраінцаў «слава Кіева», для беларусаў — барацьба Полацка за незалежнасьць. Для ўкраінскіх гетманаў не йснавала альтэрнатывы далучэньня ў XVII ст. да Расеі. Пераяслаўская рада выклікала вайну паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй, а галоўным тэатрам ваенных дзеяньняў стала Беларусь. У выніку другой сусьветнай вайны Ўкраіна павялічыла сваю тэрыторыю за кошт Закарпацкай вобласьці. Потым быў дарунак данайцаў — Крым...

І ўсё ж нейкія тыпалягічныя рысы твораць гэты рэгіён плянэты — Усходнюю Эўропу. Можа быць гэта той досьвед народаў, што пазбаўленыя дзяржаўнасьці?

Нашыя мары й трызьненьні — аб Усходняй Эўропе.

Ян Грэчыц

## ПРА БЕЛАРУСЬ

**Darski J. Białoruś. Historia, współczesność, konflikty narodowe. — Warszawa: Instytut Polityczny, 1993. — 107 s.**

Кніга «Беларусь. Гісторыя, сучаснасьць, нацыянальныя канфлікты» належыць да сэрыі кнігадрукаў, якія выпускаюцца ў Польшчы з мэтай аналізу ўнутры- і зьнешнепалітычных адносінаў паміж дзяржавамі й народамі Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы. Акрамя таго, падаюцца кароткія зьвесткі пра пісьменства, культуру, геаграфію, гаспадарку, але ўсё гэта ў той ці іншай сувязі з палітыкай.

Аўтар кнігі Юзаф Дарскі нарадзіўся ў 1952 годзе, закончыў Варшаўскі ўнівэрсытэт, дзе атрымаў адукацыю па спэцыяльнасьці «старажытная гісторыя» й «філялёгія старажытнага Ўсходу». Супрацоўнічаў з польскімі часопісамі, рэдагаваў аддзел у парыскім штомесячніку «Kontakt». З 1986 г. вёў у парыскай «Kultury» «Кроніку ўкраінскую й беларускую», а пазьней і «Кроніку літоўскую». У 1988 годзе падрыхтаваў цыкл «У нашых суседзяў». Звычайна публікуецца на старонках «Uncaptive Minds».

Як вынікае з назвы, кніга падае зьвесткі пра мінуўшчыну Беларусі, а таксама аналізуе палітычную сытуацыю і ўзаемаадносіны нашай краіны з Расеяй, Польшчай, Літвой і Ўкраінай. Зьвернем увагу толькі на некаторыя зьвесткі.

Ва ўступнай інфармацыі нацыянальным сьвятам беларусаў названае 25 сакавіка, дзень абвешчаньня незалежнасьці і ўтварэньня БНР. Што датычыцца жыхароў краіны, то іх 10280000 (1992), у тым ліку 77,9% беларусаў, зь якіх каля 1,6 млн. расейскамоўныя й 6,4 млн. беларускамоўныя; 12,2% (1,342 млн.) расейцаў; 2,9% (291 тыс.) украінцаў; 1,1% (112 тыс.) жыдоў і 7 тыс. літоўцаў (працэнтныя дадзеныя 1989 году). Больш за 2 мільёны беларусаў жывуць на сваіх этнічных тэрыторыях, што знаходзяцца па-за межамі краіны: у Расеі (Браншчына, Смаленшчына, Пскоўшчына), у Латвіі (Дзьвіншчына), у Літве (Віленшчына), у Польшчы (Беласточчына) і на Ўкраіне (у памежных раёнах Палесься і ў буйных гарадах). Зьмешчаны таксама дадзеныя па рэлігійных канфэсіях.

Гістарычныя зьвесткі пачынаюцца з падкрэсьленьня таго факту, што беларускія землі знаходзіліся далёка ад цэнтру Кіеўскай Русі й былі зьвязаныя з балтыйскім рэгіёнам. У той жа час аўтар гаворыць, што беларусамі створаны міт пра Полацкае княства як беларускую дзяржаву, якая адрозьнівалася й была старэйшая за Маскоўскае княства, калі ў рэчаіснасьці ў той пэрыяд яшчэ не было істотнай розьніцы паміж пазьнейшымі беларусамі, украінцамі й расейцамі...

Не пакінута ў баку й пытаньне пра мову. Падкрэсьліваецца, што руская, г.зн. старабеларуская мова, была дзяржаўнай і выконвала гэтую ролю ажно да канца 17 ст. Хоць спачатку карысталіся кірыліцаю, хутка да патрэбаў быў прыстасаваны лацінскі альфабэт. Такім чынам, існавалі дзьве сыстэмы.

Слабасьць беларускага нацыянальнага руху, на думку Ю.Дарскага, вынікае з трох прычынаў: 1. яго (рух) узначальвалі дзеячы, што выходзілі з каталіцтва, у той час, як народ заставаўся праваслаўным, і гэта стварала пэўныя бар'еры; 2. у беларусаў не было больш-менш нагляднай вольнасьці, як, напрыклад, у літоўцаў у Прусіі або ўкраінцаў у Галіцыі, адкуль яны б маглі распаўсюджваць нацыянальную культуру; 3. сама Беларусь была занядбаным і ізаляваным краем у адрозьненьне ад латвійска-эстонскіх губэрняў у Лівоніі.

У кнізе зьмястоўна прадстаўленыя часы БНР, а ўвогуле перабег гістарычных падзеяў сканчаецца напрыканцы вайны. Тады, калі Беларуская Цэнтральная Рада з дапамогай нямецкай Службы Бясьпекі правяла II Усебеларускі Кангрэс, які абвясьціў разрыў усялякіх сувязяў з Расеяй і СССР, але ў той жа час не сказаў пра незалежнасьць Беларусі...

Характарыстыка сучаснай палітычнай сытуацыі падаецца з пункту гледжаньня апазыцыі, і таму часам ствараецца ўражаньне падпольна выдадзенай літаратуры.

Аўтар кнігі бачыць дзьве галоўныя прычыны так званага дзьвюхмоўя: эміграцыйная палітыка была накіраваная на выезд беларусаў з Бацькаўшчыны і засяленьне на іх месца расейцаў; сыстэматычная русыфікацыя школьніцтва й культурнага жыцьця. Здаецца, робіць выснову Ю.Дарскі, што канфлікт паміж расейскамоўнымі жыхарамі краіны, якія паступова страчваюць сваё прывілеяванае становішча (пераважна ў навуцы й народнай гаспадарцы), і беларускамоўным людам непазьбежны.

Ва ўзаемаадносінах з Польшчай, Літвой і Ўкраінай праблемы зьвязаныя з тэрытарыяльна-этнічным падзелам у цяперашніх межах. Але, здаецца, усё гэта яшчэ доўгі час будзе непарушнае. І галоўная прычына такой «стабільнасьці» — у нізкім узроўні нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў.

У канцы кнігі зьмешчаны бібліяграфічны даведнік, адрасы й тэлефоны асобных выданьняў, партый і палітычных рухаў, прафсаюзаў, а таксама некаторых дзеячоў апазыцыі.

Уладзімер П.Люкевіч

## ФРАЗІАЛАГІЧАСКІЙ СЛАВАР

**Лепешаў І.Я. Фразэалягічны слоўнік беларускай мовы: У двух тамах. — Менск: «Беларуская энцыкляпэдыя» імя Петруся Броўкі, 1993. — 1197 с.**

Калі б нейкі замежны філёляг, які ня ведае незайздроснай спэцыфікі гістарычнага, палітычнага, культурнага, моўнага жыцьця беларусаў, прыехаў сёньня ў Менск з мэтаю скласьці «Фразэалягічны слоўнік беларусаў», дык, паблукаўшы сярод менчукоў, ён склаў бы «Фразеологический словарь русского языка», адметнай рысаю якога была б спрошчанасьць, звульгарызаванасьць, наяўнасьць рэдкіх беларускіх словаў. Калі б той самы філёляг не выяжджаючы на Беларусь, замовіў стос кніжак беларускіх савецкіх пісьменьнікаў, што выходзілі ў паваенны час, дык, папрацаваўшы з тым стосам, ён зноў жа склаў бы той самы «Фразэалягічны слоўнік рускай мовы» у перакладзе на «сучасную» беларускую савецкую мову. Калі ў гэты збор дадаць колькі сотняў фразэмаў усіх часоў і народаў, у тым ліку паўсотні беларускіх, дык атрымаецца слоўнік, які спадар Лепешаў назваў чамусьці «Фразэалягічным слоўнікам беларускай мовы».

Магчыма, гэты ёмісты, ажно на шэсьць тысячаў фразэалягізмаў, двухтомнік і цікавы мовазнаўцам як досьлед сучаснага заняпаднага фразэалягічнага думаньня беларускіх савецкіх пісьменнікаў, але ўжо ніяк ня можа быць «карысны настаўнікам і студэнтам, выкладчыкам навучальных установаў і навуковым работнікам, пісьменьнікам і журналістам, усім, хто цікавіцца беларускай мовай», як пра тое абвешчана ў анатацыі. Сучаснае беларускае жыцьцё вымагае іншага Слоўніка — «Слоўніка праўдзівых беларускіх фразэалягізмаў», а раўналежна можна даць і расейскія адпаведнікі, каб па-сапраўднаму дапамагчы ўсім памянёным у анатацыі. Няўжо пра гэтую надзённую патрэбу (ці як тое па-беларуску?) ня ведаў складальнік «Фразеалагічнага слоўніка» — тутэйшы, у адрозьненьне ад прыдуманага мною, мовазнавец?

Школьнік

# Іда Чырвань

*З жыцьця літаратурнага пэрсанажа*

Юрка Васілеўскі

Двойчы мільганула ў гісторыі літаратурнае імя Іда Чырвань. Аўтарка колькіх беларускамоўных вершаў, яна ня стала паэткай нават сярэдняга ўзроўню. У гісторыі літаратуры ёй выпала іншая роля.

Дачка начальніка Слуцкай тэлефоннай станцыі З.Кобрык, яна ж паэтка-пачаткоўка Іда Чырвань, сталася «музаю» першага шлюбу Кузьмы Чорнага. Мэмуары жонкі паэта Язэпа Пушчы Станіславы Плашчынскай ("Полымя", №6, 1992) асьвятлілі гісторыю кароткага саюзу Чорны — Чырвань. Спадзеючыся завалодаць Язэпам Пушчам, Іда прывабіла ягонага сябра празаіка Кузьму Чорнага. Так спазнала яна «гораду шум», рэстарацыі, іншыя бавы салёнага жыцьця менскіх літаратараў. Урэшце, «непрыгожыя знаёмствы» (азначэньне Ст.Плашчынскай) жонкі ледзь не давялі папулярнага празаіка да самагубства. Ратуючы творцу й сябра, Пушча, Дубоўка ды іншыя літаратары маральна дапамаглі Чорнаму адважыцца скасаваць шлюб.

Аніводная творчая біяграфія аніводным словам не згадала сямейную крызу выдатнага празаіка. Крытыка не заакцэнтавала й ня вытлумачыла спэцыфіку інтымных матываў у зборніку яго апавяданьняў «Пачуцьці» (Менск, 1926). Тым часам, у перажываньнях некаторых літаратурных герояў зборніка ёсьць важкая доля аўтаравага асабістага. З гэтага гледзішча вартае разгляду апавяданьне «Парфір Кіяцкі (Малюнак людзкіх адчуваньняў)». Ці ня зь Іды Чырвань напісаў Чорны накладзеную на вобраз Кіяцкага рэмінісцэнцыю: «сытая, прывабная жанчына, будзіўшая ў ім заўсёды дагэтуль вострыя жаданьні, здавальненьне якіх заганяла некуды далей усе іншыя смуткі і радасьці»? Кіяцкі (і К.Чорны) у фінале пакінуў свой дом і сваю абраньніцу.

«Парфіра Кіяцкага ведаюць ва ўсіх глухіх піўных. Асабліва яго там ведаюць тоўстыя буфэтчыкі і заўсёды падвыпіўшыя гарманісты. Ён мала з кім гаворыць, стараецца не адказваць на пытаньні. Амаль заўсёды маўчыць. Толькі раз, калі яму нехта сказаў аб тым, што жонка яго жыве з загадчыкам канторы, ён філязафічна паглядзеў на гаварыўшага і прачытаў нешта накшталт лекцыі аб сьмеху і сьлёзах. Зь яго гэтых, не зьвязных між сабою, слоў ніхто нічога не зразумеў. Не разумеў іх і ён сам. І калі разумеў што, дык гэта пункт думак, зь якіх яны стараліся выйсьці...»

Сярод дакумэнтаў Магілёўскае філіі літаратурнага аб'яднаньня «Маладняк» захоўваецца аўтабіяграфія Іды Чырвань. Пішучы пра сябе ўвесну 1926 году, яна паспрабавала апраўдацца што да Кузьмы Чорнага. На гэтай даце і абрываецца сьлед паэткі й жанчыны Іды Чырвань.

Кінутая Кіяцкім жонка, паводле К.Чорнага, «перш многа плакала і нудзела, але цераз некалькі месяцаў сышлася з загадчыкам нейкай канторы, маладым і вясёлым чалавекам, і знайшла сабе ў гэтым поўную ўцеху».





### Характарыстыка Іды Чырвань

Радзілася ў 1906 годзе ў сям'е паштова-тэлеграфнага чыноўніка ў горадзе Магілеве. Калі мне было 6 гадоў я пачула, што маю сястру (якая была на год старэй за мяне) аддаюць вучыцца ў школу. Я зрабіла гвалт каб аддалі і мяне. У школе мяне ня прымалі казалі малая яшчэ, але я не зьвяртала на гэта ўвагі і хадзіла на лекцыі. Гэтак і засталася ў школе, якую скончыла ў 9 гадоў. Пасьля школы паступіла вучыцца далей.

Яшчэ ледзьве разбірая буквы я захапілася чытаньнем. Чытала ўсё, што пападалася пад рукі. Не заўсёды магла зразумець прачытаннае, але ніколі не прасіла растлумачыць, а рабіла са ўсяго свае вывады. Некаторыя з гэтых дзіцячых вывадаў замацаваліся і пасьля занялі значнае мейсца ў будове маіх сучасных сьветапоглядаў. Праўда ёсьць і шкоднае ад гэтага, але я адчуваю, што тыя погляды у якіх трымающца гэтыя дзіцячыя вывады не ламае жыцьцё.

Калі мне йшоў адзінадцаты год я задалася мэтай прачытаць усе творы Льва Талстога; сачыненьне якога поўнасьцю было ў бацькавай бібліотэке.

Я чула як бацька абзываўся аб ім з сур'ёзнай пашанай і бралася яго чытаць з нейкім таемным страхам.

З дзяцінства я ніколі не кідала вызначанай сабе мэты, а праца якую я сабе задала была надта цяжкай для адзінадцацігадовай галавы і па гэтаму прачытаўшы творы Талстога я кінулась у бок лёгкай літаратуры і прачытала бязьлікавую колькасьць раманаў не разьбіраючысь у іх якасьці.

Дзякуючы нэрвовай зморанасьці і напружанасьці зьмест гэтых раманаў не затрымліваўся ў маей галаве.

Грунтоўна праходзіла расейскіх класікаў у школе.

З беларускай літаратурай пазнаёмілася ў 1924 годзе на Агульна адукацыйных курсах, але мяне не здавальняў тэй кавалачак беларусазнаўства які праходзіўся ў нас на курсах і я займалася ім сама.

Пісаць пачала ў 1924 годзе з маленькіх лірычных вершаў на расейскай мове, якія я хавала і нікому не паказвала. Раней яшчэ дзяцёнкам я часта накідывала малюнкі з свайго жыцьця перакладая іх на гуморыстычны тон.

Але як вершы дык і заметкі як дзіцячую забаву я спаліла калі уезжала ў Слуцак у 1925 годзе.

Бачучы неўважлівыя адносіны вучняў курсаў да беларусазнаўства я напісала верш які дзяўчата папаўшы паказалі настаўніку, а тэй накіраваў яго ў вусную газэту курсаў. Пасьля чаго я часта туды давала свае творы. Потым я напісала другі верш лірычны які я ўжо сама паказала настаўніку. Настаўнік накіраваў мяне ў філію «Маладняка» у тэй час яна ў Магілеве толькі яшчэ складалася. Я пачала хадзіць на сходы філіі, але ў філію мяне не залічылі дзеля таго, што я была яшчэ досыць слабой, як з боку мовы, так і з боку зьместу, які брала для сваіх вершаў.

Вясной 1925 года варункі жыцьця прымусілі мяне паехаць у Слуцак, дзе служыў мой бацька. Там так сама зьбіралась філія «Маладняка» у якую я ўступіла сябром 2 жніўня 1925 года.

Мае вершы друкаваліся ў Слуцкай газэце «Вясковы будаўнік». Потым Слуцкая філія выпускала зборнік «Слуцкія песьняры» у які вайшлі мае вершы «Каханьне» і яшчэ.

У Слуцку я пазнаёмілась і сайшлась з вядомым беларускім пісьменьнікам Кузьмой Чорным (Мікалай Раманоўскі). 13-га лістапада я уехала з ім у Менск.

Немагу сказаць, што мяне там акрыляла здаровае жыцьцё.

І я б цяпер з вялікай радасьцю і прыемнасьцю выкінула са сваіх успамінаў старонкі гэтага Менскага жыцьця. Але зусім нічога выкінуць нельга але можна адвесьці толькі сваё асабістае прыналежнае яму мейсца.

Узнаўшы бліжэй Кузьмы Чорнага, я спачатку ніяк не магла устанавіць сувязь паміж яго творамі і ім самім, як іх аўтарам. З аднаго боку зморапы хваробай чалавек які думае што дні яго пералічаны і ён кожны дзень паўтарае «Каб ты ведала Іда, як я жыць хачу» з другога боку творы і творы новыя і жыцьцёвыя па зьместу.

Але потым мне прышла ў галаву думка чаму гэта ўсе гэрої твораў Кузьмы людзі зморапыя жыцьцём. Не адчуваецца ў іх бадзёрасьці здаровых людзей. Гэта думка правяла сувязь паміж аўтарам і яго творамі.

Вядома блізкасьць такога чалавека адбілась на маім жыцьце і на адносінах да абкружаючых. Я нават пісаць нічога не магла.

У час майго жыцьця ў Менску быў Усебеларускі зьезд пісьменьнікаў. На яго пасяджэньне я хадзіла.

У Кузьмы была многа кніг і я пазнаёмілась там з творамі многіх беларускіх і расейскіх пісьменьнікаў і паэтаў.

Далей жыцьцё склалася так, што мне трэба было паехаць у Магілеў. Тут я прырэгістрыравалась да магілеўскай філіі хадзіла на яе сходы і працягівала працу па галіне знаёмства з новай літаратурай.

З Расейскіх паэтаў мне больш заўсяго падабающца твердыя як абрубленные словы Маякоўскага. Усюду брыжжушчый лірызм Есеніна (праўда прыходзіцца згадзіцца з тым, што ён не заўсёды здаровы). З празаікаў Пільняк за асабістае абмалёвыванне прыроды.

З беларускіх пісьменьнікаў прозы Зарэцкага і Бабарэкі за псіхолёгічную вытрыманнасьць гэроеў. Вершы Пушчы за мілагучны лірызм, вершы Дудара за бадзёры уздым і сьмелы погляд уперад. Па адукацыі я скончыла сярэднюю ўстанову ў прошлым годзе, у гэтым годзе умовы склаліся так, што мне ні было магчымасьці паступіць вучыцца далей, але аб далейшай адукацыі я ня кінула думак і рыхтуюся да паступленьня ў вышэйшую установу осенью ў 1926 годзе.

Сама я пішу выключна вершы пераважна лірычныя, але маю мэтай узяцца і за прозу і напісаць некалькі разсказаў з сучаснага жыцьця. Дзеля гэтага я занялась самаадукацыей і прахаджу навейшую і старую літаратуру, а так сама і народную творчасьць.

*Іда Чырвань (З.Кобрык)*

Прыпіска Бюро філіі: «Сувязь з філіяй трымала ўвесь час. Актыўнасьць слабая. Няглыбокі зьмест творчасьці пры нізкай фармальнай апрацоўцы. Падрыхтоўка да літаратурнай працы і агульнае разьвіцьцё — сярэдняе. Назіраецца цяга к папаўненьню тэарэтычных ведаў».

(БЦДАМЛІМ, ф.225, воп.1, спр.9 арк.69-72)

Іда Чырвань

### *ЗАКАХАЛАСЯ*

*Закахалася бурай, грымотай*
*Што бліскоча і б'е пяруном.*
*Закахалася сонцам, асокай*
*працай вольнай яе песьняром.*

*Закахалася вёскі саломай,*
*каласамі ячменю, аўса.*
*Прывітаньне ім шлю я з паклонам:*
*ў шапаценьні я іхнім расла.*

*Закахалася гораду шумам,*
*яго хваляй жыцьця — таўхатнёй.*
*Захапляе мяне гэты гоман,*
*Акунуся ў яго з галавой.*

*Закахалася сьветам ад сонца,*
*Зіхаценьнем праменьняў ад зор.*
*Сэрца поўна каханьнем бясконцым —*
*і складаюцца песьні ў узор.*

Слуцкія песьняры. — Менск, 1926.

# Францускі погляд на Эўропу зь Вільні

*Гутарка супрацоўніка «НН» Сяргея Шупы з культурным аташэ францускага пасольства ў Вільні Фрэдэрыкам Жюжо*

С.Ш.: Ці Вы адчуваеце сябе тут як у Эўропе?

Ф.Ж.: Так, абсалютна. Паводле архітэктуры... Горад Вільня — выразна цэнтральнаэўрапейскі горад. Гісторыя сьведчыць пра гэтую супольнасьць, тую самую, у якой Гішпанія, Францыя і далей — прынамсі да балтыйскіх краінаў. У штодзённым жыцьці, ці дакладней, у дачыненьнях зь літоўцамі, мы разумеем адны адных, мы маем аднолькавы лад мысьленьня, агульныя гістарычныя, культурныя й літаратурныя пункты суаднясеньня, і ў прыватнасьці паміж літоўцамі й французамі існуе эмацыйная прыязнасьць, я б нават сказаў сяброўства, натуральнае разуменьне, што базуюцца на гэтым супольным культурным асяродзьдзі, на нашай эўрапейскай спадчыне. Вядома ж, усё гэта можна дэталізаваць...

С.Ш.: Дзе ўсё ж праходзіць мяжа? Дзе канчаецца Эўропа?

Ф.Ж.: У Вільні была арганізаваная канфэрэнцыя «Эстэтыка й штодзённае жыцьцё ў Эўропе», і самымі бліскучымі прамоўцамі, што бралі ў ёй удзел, былі Крыстоф Паміян, паляк з паходжаньня, які выкладае ў Францыі, і Антон Ліма, чэх, які таксама жыве ў Францыі. Кожны зь іх даў сваю дэфініцыю Эўропы. Асабліва мне запомніліся некалькі заўвагаў Крыстофа Паміяна, дзе ён сказаў, што ёсьць Эўропа мінарэтаў і Эўропа званіцаў, ёсьць Эўропа капусная й Эўропа бульбяная... Эўропа поўная разнастайнасьцяў. Існуе цэлы шэраг мерапрыемстваў, мэта якіх — зрабіць з Эўропы пэўную еднасьць... Напрыклад, у галіне кінэматаграфіі, нядаўна мы падпісалі кантракт, які завецца «Эўропа-Сінэма», зь дзьвюма кіназаламі Вільні, першымі заламі ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе, што будуць інтэграваныя ў сетку, якая ўжо цяпер злучае каля шасьцідзесяці кіназаляў у Заходняй Эўропе. Гэта аднак ня значыць, што мы імкнемся да уніфармізацыі, стандартызацыі, гэткай, як на амэрыканскай тэрыторыі, дзе Амэрыка паўсюль бароніць тую самую культуру й тыя самыя каштоўнасьці — ад Вашынгтону да Нью-Ёрку, хоць трэба вылучаць адрозьненьні. Існуе значна большая уніфармізацыя ўнутры амэрыканскай тэрыторыі, чым унутры эўрапейскай, чыя гісторыя значна больш складаная, дзе значна ярчэй выяўляецца партыкулярызм. Аднак я лічу, што сёньня адбываецца працэс, у якім ёсьць адначасовыя імкненьні падкрэсьліць гэты партыкулярызм, нават унутры нацыяў, краінаў, падкрэсьліць рэгіянальны партыкулярызм, і разам з тым паказаць гэтую еднасьць. Дык вось, цяпер сказаць, дзе пачынаецца або канчаецца Эўропа, — гэта залежыць ад канкрэтнай галіны, ад уяўленьняў кожнага і ад дэфініцыяў, якія пры гэтым выкарыстоўваюцца.

С.Ш.: Улічыўшы ўсё сказанае вышэй, што можна сказаць пра Беларусь? Калі глядзець на яе зь Вільні, з Эўропы...

Ф.Ж.: Наколькі я мог зразумець, тоеснасьць Беларусі акрэсьліць значна цяжэй, чым тоеснасьць такой краіны, як Літва. У Літве 80% жыхарства гаворыць па-літоўску, нават болей, бо сярод польскае й расейскае грамады таксама шмат хто гаворыць па-літоўску. У Беларусі гавораць па-расейску, а па-беларуску гавораць вельмі мала. І вось гэты фактар еднасьці й сьцьвярджэньня сваёй культурнай тоеснасьці ўскладняе выдзяленьне сябе як культурнае нацыі ў дачыненьні да сваіх суседзяў. Апрыёрна я магу сказаць, што ў мяне склалася ўражаньне, нібыта Беларусь хутчэй складае частку... больш прыцягваецца гіганцкім магнітным полем Расеі, чым Літвы — я не жыву ў Літве з пачуцьцём, што йснуюць надзвычай разьвітыя сувязі паміж Літвой і Беларусяй, як яны могуць існаваць... як існуе супольнасьць пацьверджаных інтарэсаў, хоць і даволі слаба разьвітая, паміж Літвой і Латвіяй, напрыклад.

С.Ш.: Існуе канкурэнцыя паміж францускай культурай і іншымі вялікімі культурамі хрысьціянскага сьвету, прыкладам, ангельскай або англасаксонскай — ці Вы бачыце істотную розьніцу паміж ангельскай і гэткай жа англамоўнай амэрыканскай культурай? — дзе месца культуры францускай у межах гэтае канкурэнцыі? У чым палягае супрацьстаяньне гэтых культураў? Чаму супрацьстаўляе сябе француская культура і якая яе місія ў гэтым сьвеце? Рэч у тым, што культурная дзейнасьць францускае амбасады значна шырэйшая, чым амбасады якой іншай краіны тут. Іншых амаль не цікавяць праблемы культуры, прыкладам італійская ня мае нават пасады культурнага аташэ...

Ф.Ж.: Усім відавочна, што ангельская мова й англасаксонская культура вельмі пашыраныя ў сьвеце, гэта адчуваюць на сабе й французы, гэта адчуваецца і ў Францыі — людзі значна больш ходзяць на амэрыканскія фільмы, чым на францускія, француская тэлевізія багата нагружаная амэрыканскімі перадачамі, і сам францускі лад жыцьця вельмі часта зазнае англасаксонскі культурны ўплыў — ціто ў музыцы, ціто ў вопратцы. Толькі што мы гаварылі пра эўрапейскі партыкулярызм, і вось я думаю, што Францыя ўсё ж захавала яскрава выяўлены партыкулярызм. Францыя была на працягу мінулых стагодзьдзяў вялікаю дзяржавай, ва ўсялякім выпадку яна дамінавала ў сьвеце як культурная дзяржава. Магчыма, сёньня гэта выяўляецца ўжо не ў такой ступені, аднак была захаваная пэўная традыцыя пашырэньня францускай культуры й мовы, і цяпер назіраецца імкненьне падтрымаць франкамоўнасьць, і калі Францыя надалей гэта робіць, дык таму, што яна заўважае ў розных краінах сьвету, якія мелі дачыненьне да францускай культуры й мовы, патрэбу з боку гэтых краінаў. Гэта датычыць добрай паловы краінаў Афрыкі, Квэбэку, Бэльгіі — буйнейшых франкамоўных краінаў, гэта датычыць таксама й Сярэдняга Ўсходу, увогуле ўсіх колішніх францускіх калёніяў. Калёніі не абавязкова значылі запрыгоньваньне, быў таксама й пераважны кантакт з францускай культурай, а таксама тое, што завецца навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва, якое йснавала ў іншай форме ў каляніяльныя часы. Так што францускае панаваньне пакінула па сабе на культурным узроўні вельмі пазытыўныя аспэкты. Таму гэта зусім не апантаны экспансіянізм з боку Францыі, а вельмі часта выразная патрэба, што высьпявае ўнутры саміх гэтых краінаў. Парыж быў культурнай сталіцаю заходняга сьвету. Цяпер Францыя, надзеленая гэтай культурнай гісторыяй ды тым, што яна была прысутная ў шматлікіх краінах сьвету, імкнецца мабілізаваць сродкі таго, што завецца «культурнай дыпляматыяй». Гэтага нельга сказаць пра ўсе эўрапейскія краіны. Усе эўрапейскія краіны таксама ня маюць такой цэнтралізаванай сыстэмы адміністрацыйнага й дзяржаўнага функцыянаваньня, як Францыя. Вага адміністрацыі ў Францыі й яе сіла, яе зладжанасьць, яе цэнтралізаванасьць, яе цяжар таксама — гэта традыцыя, якая захавалася з часоў Напалеона, ад часоў інтэграцыі францускіх правінцыяў у францускую нацыю. Прыкладам, Нямеччына або Італія маюць зусім іншую гісторыю й сыстэму адміністрацыі, вага земляў у Нямеччыне значна больш істотная, і супрацоўніцтва паасобных земляў рэгулюецца непасрэдна імі, а не абавязкова ў Боне, тым часам як асноўная частка францускіх кантактаў праходзіць праз Парыж і праз амбасады. Гэта яшчэ адна прычына, якая тлумачыць Вашае сьцьверджаньне. У Італіі органы ўлады значна больш падзеленыя геаграфічна, чым у Францыі.

С.Ш.: Якім Вы бачыце лёс францускае мовы й культуры ў гэтым сьвеце, які ўсё больш інтэгруецца й робіцца аднастайным? Што будзе праз стагодзьдзе?

Ф.Ж.: Думаю, што калі Францыя будзе працягваць сваю палітыку падтрымкі францускае мовы, няма ніякіх прычын баяцца, што гэтая культурная сыстэма зьнікне. Француская мова прысутная ў сьвеце ўжо некалькі стагодзьдзяў, можна сабе ўявіць, што яна будзе йснаваць і яшчэ праз стагодзьдзе. Гэта будзе залежаць і ад гісторыі Эўропы — ці Эўропа будзе мець дастаткова мудрасьці, каб захаваць свой партыкулярызм і не ўніфармізаваць усё. Уніфармізацыя Эўропы мела б сур'ёзныя наступствы, бо тады было б страчанае багацьце, што вынікае з разнастайнасьці Эўропы. Думаю, што лёс францускае мовы ў сьвеце зьвязаны зь лёсам Францыі ў Эўропе і зь яе «выпраменьваньнем».

С.Ш.: А калі ўзяць партыкулярызм на ўзроўні этнічных меншасьцяў, прыкладам у Францыі?

Ф.Ж.: Цяпер у Францыі якраз адбываецца адраджэньне рэгіёнаў, рэгіянальных культур, якія пацярпелі цяжкія страты... Сёньня, калі шкода ўжо спрычыненая, усё ж прадпрымаюцца спробы адрадзіць іхныя культуры. У той самы час, калі пачалі шмат гаварыць пра Эўропу супольнасьцяў, у Францыі пачаліся размовы пра дэцэнтралізацыю, і некаторыя дзяржаўныя органы, вялікія прадпрыемствы й навучальныя ўстановы былі перанесеныя з Парыжу ў правінцыйныя гарады, каб ажывіць пэўныя рэгіёны. Разам з тым у рэгіёнах была ўсьведамленая небясьпека празьмернае цэнтралізацыі Францыі, улічваючы ўніфармізацыю Эўропы, у супрацьвагу гэтаму, праз дух пярэчаньня, праз натуральную раўнавагу, гэта надало вагі гэтаму ўсьведамленьню, гэтай дзейнасьці ў падтрымцы тоеснасьці рэгіянальных культураў.

С.Ш.: Ці верыце Вы ў будучыню Эўропы?

Ф.Ж.: Я думаю, што будучыня Эўропы вельмі складаная, але цяпер вельмі захапляльная, бо Эўропа мае багаты патэнцыял. Адбываюцца, вядома ж, і сумныя рэчы, як у Югаславіі, і гэта надоўга адзначыць гісторыю Эўропы 80—90-х гадоў. З другога боку ёсьць шмат іншых надзвычай пазытыўных фактараў, якія нясуць з сабою шмат спадзяваньняў што да эўрапейскай супольнасьці, у якую я веру.

# КАМЕНЬ, ЯКІ РАСЬЦЕ

*Працяг са старонкі 5*

— Ну, — сказаў мэр, — я, як мэр горада, спадар Кавалья, што перад вамі, потым — капітан порту, ну, і яшчэ некалькі, меней важных. Зрэшты, вам ня трэба будзе выдаткоўваць на іх шмат увагі: яны не гавораць па-француску.

Д'Ара паклікаў Сакрата й папярэдзіў, што вернецца каля паўдня.

— Добра, — сказаў Сакрат. — Я пайду ў Сквэр з фантанам.

— У Сквэр?

— Так, тут усе ведаюць. Ня трэба баяцца, пане д'Ара.

Шпіталь, як, выходзячы, заўважыў д'Ара, стаяў на самым ускрайку лесу, цяжкія шаты якога навісалі над дахамі. На ўсю гэтую масу расьлін безупынку ападала суцэльнае імжыстае покрыва, якое раскошысты лес бясшумна ўбіраў у сябе, як велізэзная губка. Горад — каля сотні дамоў, крытых паліняляй дахоўкай,— туліўся паміж лесам і ракою, далёкі подых якой далятаў да шпіталя. Машына рушыла па раскіслых вуліцах і неўзабаве выехала на даволі шырокі чатырохкутны пляц, заліты вялікімі й маленькімі лужынамі, паміж якімі, у чырвонай глеістай глебе, відне́ліся адбіткі аўтамабільных шын, жалезных абадоў і капытоў. Па пэрымэтры пляц абступалі нізенькія рознакаляровыя домікі з тынкаванымі сьценамі, а за імі высіліся дзьве круглыя блакітна-белыя вежы касьцёла ў каляніяльным стылю. Па-над усім гэтым голым убранствам лунаў водар солі, што далятаў ад [illegible] На сярэдзіне пляцу тапталіся [illegible] наскрозь прамоклых постацяў, а [illegible] дамоў, млява жэстыкулюючы, тоўкся пярэсты натоўп гаўчо, японцаў, мяшаных індэйцаў і зграбна апранутых «знакамітых людзей», чорныя гарнітуры якіх выглядалі тут экзатычна. Прапускаючы аўтамабіль, натоўп нетаропка расступіўся ўбакі й правёў яго позіркам. А калі машына перад адным дамком нарэшце спынілася, вакол яе адразу вырасла маўклівая сьцяна мокрых гаўчо.

Клюб месьціўся на другім паверсе і ўяўляў сабою нешта накшталт невялічкага бара з бамбукавым прылаўкам і круглымі аднаногімі столікамі з бляшанымі стальніцамі. «Знакамітых людзей» было шмат. Мэр, узьняўшы шклянку з трысьняговай гарэлкай, прамовіў тост за прыезд пана інжэнэра й шчасьце ва ўсім сьвеце, і ўсе выпілі ў гонар д'Ара. Але калі д'Ара, папіваючы, прымасьціўся каля вакна, да яго раптам падыйшоў здаравушчы бамбіза ў кароткіх наезьніцкіх нагавіцах і скураных гамашах і, крыху пагойдваючыся, залапатаў нешта не зусім зразумелае, з чаго інжэнэр улавіў толькі адно слова: «пашпарт». Без асаблівай упэўненасьці ён дастаў дакумэнт, і бамбіза, схапіўшы яго зь вялікаю прагнасьцю, пачаў гартаць, усім выглядам паказваючы сваю яўную незадаволенасьць. Потым ён нешта залапатаў зноў, трасучы кніжачкай перад носам у інжэнэра, але той глядзеў на свайго гнеўнага суразмоўніка абсалютна спакойна. У гэтую хвіліну да іх падыйшоў судзьдзя й, ветліва ўсьміхаючыся, запытаўся, пра што йдзе гаворка. П'янюга пэўную хвіліну аглядаў крохкую фігуру таго, хто асьмеліўся яго перапыніць, і потым, пахіснуўшыся яшчэ небясьпечней, затрос пашпартам перад вачыма ўжо новага суразмоўніка. Д'Ара тым часам мірна прысеў каля століка й пачаў чакаць, чым усё скончыцца.

Дыялёг пераходзіў на даволі павышаны тон, і раптам судзьдзя выбухнуў такім аглушальным голасам, якога ад яго абсалютна немагчыма было чакаць. Бамбіза адразу змоўк і адступіў з выглядам дзіцяці, якое засьпелі на дрэнным учынку. Пасьля грымотнай судзьдзёвай тырады ён бокам-бокам, як пакараны свавольнік, скіраваў да дзьвярэй і зьнік за парогам.

Судзьдзя, голасам, да якога зноў вярнулася мілагучнасьць, пачаў тлумачыць д'Ара, што гэты грубіян — а гэта, як высьветлілася, быў начальнік паліцыі — меў нахабства сьцьвярджаць, нібыта ў пашпарце нечага не хапае, але за сваю выхадку ён будзе пакараны. Потым Кавалья павярнуўся да «знакамітых», што ўжо абступілі яго з усіх бакоў, і, здаецца, пра нешта пачаў зь імі раіцца. Пасьля кароткай размовы судзьдзя ўрачыстым тонам папрасіў у д'Ара прабачэньня, запэўніў, што, безумоўна, нічым, апроч ап'яненьня, нельга растлумачыць такое поўнае забыцьцё пачуцьцяў удзячнасьці й павагі, якія мусяць адчуваць да яго ўсе жыхары Ігуапы, і ўрэшце прапанаваў пану інжэнэру зрабіць ім вялікую ласку й самастойна абраць пакараньне, якое варта было б прызначыць гэтаму горапаліцыянту. Д'Ара запэўніў, што ня хоча ніякага пакараньня, і ўвогуле — гэта зусім ня варты ўвагі выпадак, а лепей было б хутчэй пайсьці да ракі. Тады слова ўзяў мэр, ён зь вельмі кранальнаю дабрынёю пачаў тлумачыць, што пакараньне ўсё-такі абсалютна неабходнае й вінаваты ўжо зараз будзе адпраўлены пад арышт, а яны ўсе тым часам пакорліва будуць чакаць, калі іх высокі госьць ласкава захоча вырашыць яго лёс. Ніякія пярэчаньні ня здолелі зламаць яго расквечанай усьмешкаю строгасьці, і д'Ара вымушаны быў паабяцаць, што падумае. З тым усе й выправіліся ў ніжнія кварталы.

Рака ўжо шырока разьліла свае воды па нізкіх, сьлізкіх берагах. Яны пакінулі ззаду апошнія дамы Ігуапы й былі цяпер паміж ракою й высокім стромым адхонам, да якога туліліся хаціны з саману й гальля. Перад імі ад самага краю насыпной гаці зноў рэзка паўставаў густы лес, такі самы, як на другім беразе. Але водны прагал паміж дрэвамі хутка пашыраўся, ператвараючыся ў адну суцэльную, ня вельмі выразную лінію, дзе жаўцізна трошкі шарэла: там пачыналася мора. Д'Ара моўчкі рушыў да адхона, на якім паводкамі рознае вышыні былі пакінутыя яшчэ сьвежыя сьляды. Гразкая сьцежка вяла ўгару — да хацін, перад якімі, маўкліва пазіраючы на прыйшлых, стаялі нэгры. Некаторыя адасобіліся парачкамі й трымалі адно аднаго за рукі, а на самым краю гаці, перад дарослымі, шырока вылупіўшы вочкі, выстраіліся шнурочкам зусім кволыя нэгрыцяняты з разьдзьмутымі жыватамі й танюткімі ножкамі.

Дайшоўшы да хацін, д'Ара жэстам паклікаў начальніка порту. Гэта быў тоўсты ўсьмешлівы нэгар у беласьнежнай уніформе. Д'Ара папытаўся ў яго па-гішпанску, ці можна зайсьці ў якую-небудзь хаціну. Начальнік быў у гэтым абсалютна ўпэўнены й лічыў нават, што гэта цудоўная думка: пан інжэнэр пабачыць там нямала цікавага. Ён павярнуўся да

# Шарль Бадлер

## ДА ЧЫТАЧА

Прывыкла ў нас душа і цела без агіды
Прымаць паскудства, грэх, дурноту і крутню.
Мы сыцім без згрызот нам любую гайню,
Як тыя жабракі, што кормяць вошы й гніды.

Выносьлівы наш грэх, а каяньне, як рыба,
Што гіне без вады, — і кожны з нас бяжыць
У радасьці назад, у твань, з надзеяй змыць
Няшчырымі сьлязьмі заганы нашы й хібы.

Вучоны Трысмэгіст загойвае памалу
На ложы зла й граху ачмураны наш дух,
Аж выпарыў нашчэнт з нас гэты хімік-зух
Усе да аднаго каштоўныя мэталы.

Так, гэта Д'ябал нас трымае пад апекай!
І звабай гідкае ўсё пляміць назнарок;
Глядзім бяз жаху мы ў прапахлы серай змрок,
Штодня спускаемся на крок бліжэй да Пекла.

Бы ўбогі рэспут той, што зьвялую пахвіну
Старой гетэры сьсе й цалуе ўнасалодзь,
Гэтак і мы сабе шукаем слодыч, хоць
Яна ўжо выціснутым стала апэльсінам.

Нібы мільён глістоў, у мозгах карагодзіць
Зданьнё са сьвіты Сатаны, і неўпрыкмецъ
У нашы лёгкія з уздыхам кожным Сьмерць
Ракою цёмнаю са стогнам уваходзіць.

Калі яшчэ штылет, пажар, яд, юр жывёльны
Ня вышылі на тле нікчэмных лёсаў свой
Злавесны сылюэт, дык гэтаму віной
Нямогласьць нашых душ, ні да чаго ня здольных.

Аднак сярод гіен, шакалаў, павіянаў,
Грыфонаў, павукоў, гадзюк, нетапыроў,
Жахлівых монстраў, што выцьцём халодзяць кроў,
У збрыджаным наскрозь зьвярынцы ўсіх заганаў,—

Ёсьць горшая з пачвар, найбрыдшая зь мярзотных!
Хоць лішні жэст і крык не на яе капыл,
Ды ўсю зямлю яна раструшчыла б на пыл
І позіхам адным зглынула б сьвет ахвотна;

Завуць яе Нуда! — пакурвае цыгару
Нясьпешліва й глядзіць на эшафот праз дым
Сьлязьлівым вокам. Ты, чытач, мой пабрацім,
Ты знаеш гэтую галянтную пачвару!

Пераклаў Алег Мінкін,
падрадкоўкі Севярына Квяткоўскага



*Малюнак Дзяніса Раманюка*

нэграў і доўга нешта ім гаварыў, паказваючы то на д'Ара, то на раку. Тыя слухалі моўчкі. Але калі начальнік змоўк, ніхто не варухнуўся. Ён загаварыў зноў, ужо болей нецярплівым голасам, і нарэшце зьвярнуўся асабіста да аднаго мужчыны, які ў адказ закруціў галавой. Тады начальнік прамовіў колькі кароткіх словаў загадным тонам. Мужчына адыйшоў ад сваёй групкі, павярнуўся тварам да д'Ара й жэстам паказаў, кудою йсці. Гэта быў чалавек даволі сталага веку, яго кароткія кудзеры былі ўжо кранутыя сівізной, ён меў тонкі, змораны твар, але яшчэ маладое цела з дужымі плячыма й мускуламі, якія ўгадваліся пад палатнянымі нагавіцамі й падранай кашуляй. Яны пайшлі па новым, болей адложыстым адхоне, і сьледам за імі пацягнуліся начальнік порту і ўвесь нэгрыцянскі натоўп. Гліняныя, бляшаныя, трысьняговыя хаты, што стаялі вакол, так слаба трымаліся за зямлю, што ўнізе з усіх бакоў іх давялося абкласьці камянямі. Насустрач ім трапілася жанчына, якая, сьлізгаючы босымі нагамі па гразкай сьцяжыне, несла ўніз поўны бляшаны бідон з вадой, трымаючы яго на галаве. Потым яны апынуліся на невялічкай пляцоўцы, абгароджанай з трох бакоў хацінамі. Мужчына ступіў да адной, штурхануў бамбукавыя дзьверы, што трымаліся на прывязках, зробленых з тонкіх ліянаў, і, прапускаючы інжэнэра, моўчкі адыйшоў убок, пазіраючы на яго абсалютна халоднымі вачыма. У хаце д'Ара спачатку ня ўбачыў нічога апроч кволага вогнішча, раскладзенага на зямлі якраз пасярэдзіне пакоя. Потым у дальнім куце, углыбіні, ён разгледзеў мядзяны ложак з голай правіслаю сеткай, а ў другім — столік з нагрувашчаным на ім гліняным посудам, і паміж імі — нешта накшталт козлаў зь вялікаю храмаграфіяй, зь якой глядзела выява Сьв. Юр'і. Болей тут не было нічога, апроч кучы ануч, справа каля ўваходу, і некалькіх рознакаляровых набедраных павязак, што сушыліся над агнём пад стольлю. Д'Ара стаяў, удыхаючы пахі вогнішча й галечы, што падымаліся ад зямлі й даўка падступалі да горла. Раптам начальнік порту пляснуў у яго за сьпінай у далоні, і, азірнуўшыся, інжэнэр убачыў, як у дзьвярной пройме супраць сьвятла ўзьнікла зграбная постаць маладой нэгрыцянкі, якая нешта яму працягнула. Ён узяў шклянку й рэзкім глытком выпіў густую трысьняговую гарэлку, што ў ёй аказалася. Дзяўчына зноў працягнула паднос, прыняла пустую шклянку й адным рухам зьнікла за дзьвярыма. Гэты рух быў такі мяккі й цёплы, што ў д'Ара раптам узьнікла жаданьне яе затрымаць.

Але выйшаўшы сьледам, ён ня здолеў яе пазнаць у натоўпе нэграў і «знакамітых людзей», што абступалі хаціну. Тады ён падзякаваў старому, які адно моўчкі нахіліў галаву, і ўсе рушылі. Начальнік порту йшоў сьледам за інжэнэрам і зноў нешта тлумачыў яму, пытаючыся, калі Француская кампанія ў Рыё магла б распачаць работы й ці можна паставіць дамбу да пачатку вялікіх дажджоў. Д'Ара гэтага ня ведаў, але, па шчырасьці, ня думаў, каб гэта было магчыма. Пад неадчувальным дажджом яны спускаліся да ракі, ад якой патыхала сьвежасьцю. Д'Ара прыслухоўваўся да прасторнага, шырокага пошуму, які безупынна акружаў яго з той самай хвіліны, як ён прыехаў сюды, і ня мог зразумець, ці гэта шолах вады ці дрэваў. Апынуўшыся зноўку на беразе, ён паглядзеў удалечыню, на пярэстую лінію мора, тысячы кілямэтраў самотных водаў, за якімі ляжала Афрыка, а яшчэ трошкі далей — Эўропа, зь якой ён прыехаў.

— Капітан, — спытаў ён у начальніка порту, — чым жывуць гэтыя людзі, у якіх мы былі?

— Працуюць, калі бываюць патрэбныя, — сказаў капітан. — Мы тут бедныя!

— А гэтыя, відаць, найбяднейшыя?

— Гэтыя — найбяднейшыя.

Судзьдзя, які якраз падыйшоў да іх, крыху сьлізгаючы па гразі ў сваіх тонкіх чаравіках, паведаміў, што ўсе гэтыя людзі ўжо вельмі палюбілі пана інжэнэра за тое, што ён дасьць ім працу.

— А ўвогуле, — сказаў ён, — ведаеце, яны цэлымі днямі сьпяваюць ды танчаць.

І тут жа, безь ніякага пераходу, ён спытаў у д'Ара, ці падумаў ён пра пакараньне.

— Якое пакараньне?

— Ну, нашаму начальніку паліцыі.

— Трэба яго адпусьціць.

Судзьдзя сказаў, што гэта немагчыма і што пакараньне павінна быць. Але д'Ара ўжо йшоў да горада.

Упрыгожаны гронкамі незнаёмых кветак, што зьбягалі ўздоўж ліянаў паміж банановымі дрэвамі й пандусамі, невялікі Сквэр з фантанам, насычаны цёплай імжой, здаваўся казачным і ласкавым. Сьцяжынкі на скрыжаваньнях былі пазначаныя вільготнымі крушнямі, і ў гэты час тут гуляў вялікі пярэсты натоўп. Мэтысы, мулаты, гаўчо, ціха перагаворваючыся, нетаропкай ступою хадзілі па бамбукавых прысадах, якія вялі туды, дзе кусты й зарасьнік паступова гусьцелі, ператвараючыся ў суцэльную непралазную нетру. Там, адразу, безь ніякага пераходу, пачынаўся лес.

Д'Ара шукаў у натоўпе Сакрата, але той зьнянацку наляцеў на яго ззаду.

— Сьвята, — сьмеючыся крыкнуў Сакрат і, абапёршыся на высокія інжэнэравы плечы, падскочыў на месцы.

— Якое сьвята?

— Хэ! — зьдзівіўся Сакрат, ужо стаўшы да д'Ара тварам.— Ты ня ведаеш? Сьвята пана Ісуса. Кожны год усе з малатком ідуць да пячоры.

І Сакрат паказаў не на пячору, а на купку людзей, якія, нібыта нечага чакаючы, стаялі ў закутку Сквэра.

— Разумееш! Аднойчы была статуя пана Ісуса, яна прыплыла з мора, уверх па рацэ. Яе знайшлі рыбакі. Такая прыгожая! Такая прыгожая! Тады яны яе тут памылі, у пячоры. А цяпер у пячоры пачаў расьці камень. І кожны год — сьвята. З малатком адбіваеш, адбіваеш кавалачкі — асьвянцоныя, на шчасьце. А потым ён — вось, заўсёды расьце, а ты заўсёды адбіваеш. Гэта такі цуд.

Яны падыйшлі да пячоры, нізкі ўваход у якую ўгадваўся над галовамі людзей,

*Працяг на старонцы 10*

# Ліст са скрыжаваньня ў Мэнільмантане

Мэва Марон




Калі глядзець уніз з нашага кутку на сёмым паверсе, вуліца налева вядзе паўз піцэрыю на Père Lachaise, вуліца направа — паўз кітайскі рэстаран вельмі прыблізна ў бок Sacré Coeur, які мгліцца над стрэхамі на небакраі. Супрацьлеглы ад нас рог вуліцы, паміж Вялікім Кітайскім Мурам і Пахіленай Пізанскай Вежай, выглядае нечаканым аазісам (або пусткаю, залежна ад вашага гледзішча): вузенькія сходы паднімаюцца ў штосьці, што здаецца праз дрэвы (акацыі?) брукаваным дворыкам (глухі завулак, паводле карты), дзе нават буднімі ранкамі амаль не відно знакаў жыцьця — нос чырвонага аўта, прыпаркаванага там, дзе двор хаваецца за рог дома, тыл якога мы бачым, раз-пораз крадзецца кот...

Я не магу пэўна сказаць каторая гадзіна. Мой новы гадзіньнік зь Менску, як здаецца, працуе, а швэйцарскі ня вытрываў апошняга пераходу на летні час; дык або сьняданьне спазьняецца, або яны зноў памянялі час. І вось, я сяджу тут зь «Імшою» Рабэра Марто цудоўнай верасьнёўскай нядзельнай раніцай. Варта б сказаць нешта пра самога Марто, ён здаецца мне запозьненым успамінам з майго апошняга побыту тут (кніга выйшла ў пазамінулым верасьні, аднак напэўна пасьля рэфэрэндуму ЭЭС); аднак у гэтую няпэўную часіну (як кажуць паэты), падрыхтаваўшы хатняе заданьне для сёньняшніх пошукаў (а надвор'е выглядае добрым), я магу ўцячы ад часу — да таго ж сёньня нядзеля, а кніга завецца «Імша».

Пачынаецца яна з «Сарокі» Манэ, якую я ведала толькі ў перакладзе чалавека з Канады, у чыім «Выгнаньні» былі зьмешчаныя пераклады Іманта Зіедоніса: «Сарока дзяўбла сьнег і плявала аранжава / на пруты брамы з чорнай акацыі, яна сядзела наўзбоч, / навідавоку сярод чорных яблыняў. Зьзяньне дзіўнае / нібы нейкая мігатлівая морская лямпа, якая трымае / сваё сьвятло, патанае ўдзень у каралавай сьвецені, абарваны грэбень пэрлямутру, які то стрымвае, / то рассыпае чырвань і шэрасьць на сядзібу, / што туліцца да попельна-цьмянага неба...» І гэтак далей да канца санэту, першага з чатырох соцень ці каля таго, поўных кірляў, варонаў, малінавак, крумкачоў і г.д. і г.д. І дрэваў. І кожны з датай і месцам, сапраўдны часаслоў. Парыжскі малітоўнік, трэбнік...

Падарожжа сюды ў чацьвер зводзіцца да двух назоваў, Шорам і Эшфард. Усяго толькі назовы, на станцыйных плятформах, больш там нічога й не было відаць — нібы яны ўсплылі з туману. А я тым часам з натугаю спрабую выдабыць з памяці французскія словы, заржавелыя за год, — замест іх выходзяць ірляндзкія, нават цэлыя сказы, а не асобныя словы, якія напрошваюцца падчас гульні ў скрэбл, калі «ня лезуць» ангельскія: *ceo* (туман), *caoi* (шлях), *cnó* (арэх), *croí* (сэрца)... Або радкі, як гэты Шона О Рырданя *«Is mise peaca an Tiarna / á nochtadh aige i bhfaoistin»* (Я — грэх Госпада, / які ён мусіць прызнаць на споведзі)...

Шорам, каля Сэвноўксу, гэта месца, дзе Сэмюэл Палмэр стварыў у сваіх летуценных гравюрах сьвет, формы якога, дрэвы й пагоркі, растуць нібы грыбы (цяпер якраз пара — у мяне Грыбы ня йдуць з галавы!). Я ніколі не заўважала гэтага назову раней, я нават ніколі ня ведала, дзе гэты Шорам. Сьвет Сэмюэла Палмэра жыве на тых бурых пласьцінах пад засеньню (калі вам пашанцавала й яны не схаваныя яшчэ далей ад сьвятла) у Охсфардзкім музэі — або на паштовачных рэпрадукцыях, арыгіналы такія маленькія, што яны выдатна пасуюць для паштовак — любое месца, ня горш за Шорам, магло для каго іншага выглядаць так, як ён яго ўбачыў — аднак назоў застаецца, хутчэй у няпэўным сьвятле 1830-х, чым сёньня праз туман...

Другі назоў — Эшфард. Які я бачыла й раней. У 1943 у Эшфардзе памерла жанчына. У гэтым Эшфардзе ці якім іншым? Эшфард, Кент або Эшфард, Мідлсэкс? Ці гэта было ў Мідлсэкскім шпіталі? Мне часьцей даводзіцца прамінаць той другі Эшфард, і я чамусь і заўсёды ў думках зьвязвала яе з гэтай больш экзатычнай мясьцінай. Экзатычнай толькі з майго гледзішча: бо цяжка нават сказаць, каторы з Эшфардаў больш нудны й нецікавы. Яе ймя было Сімон Вэй. Угодкі неяк прамінулі ў маўчаньні. Яна нямодна сур'ёзная — не, не сур'ёзная, а *заклапочаная* — рэчамі, якія сёньня здаюцца састарэлымі, узяць хоць бы яе палкую прыхільнасьць да *ўвагі як формы малітвы і непрыняцьце ўяўленьня, «падманнай замены»* (аднак тое, што яна называла ўяўленьнем, Коўлрыдж называў фантазіяй у *супрацьлегласьць* сапраўднаму ўяўленьню!).

«Бачыць сьвет так, быццам бы цябе там няма / каб брудзіць яго», як тое, да чаго ймкнулася Фэдра ў Расіна: «Et la mort à mes yeux ravissant la clarté / rend au jour qu'ils souillaient toute sa pureté». Яна шмат для мяне значыла. Значыць і цяпер, але йнакш: цяпер яна прабралася мне пад скуру, я нават не заўважыла гэтай адмысловай жнівеньскай даты... Не было лавіны публікацыяў праз пяцьдзесят гадоў пасьля яе сьмерці (бо ж зьнятыя абмежаваньні аўтарскага права): яна памерла маладая, і яе нататнікі былі апублікаваныя пасьмяротна. Цікава, што сёньня пра яе думаюць у Францыі? Мне ў Парыжы так ніколі й не ўдалося знайсьці 4-ты том яе нататнікаў...

Чалавек, чый занятак — правяраць білеты, хоча быць паштаром: гэтак кажа ён сам. Ён заахвочвае пасажыраў (амэрыканцаў) аддаць яму свае паштоўкі, ён нават сам купіць маркі — незвычайна паслужліва! Але мае думкі займае двубой паміж маімі двума назовамі, спрэчка паміж сузіраньнем і міласэрнасьцю. Я пачуваюся значна больш рэлігійнаю сярод некаторых краявідаў, чым у бальшыні цэркваў, і ўсё больш неахвотнаю да раздаваньня *дапамогі* налева й направа. Я адчуваю жах, калі людзі *падыходзяць* да мяне не як да мяне, а як да некага, да любога, да *аб'екту*. У Лёндане вы ўжо ня здолееце спытацца дарогі, бо вас прыймуць за жабрака або зьбіральніка дапамогі: дапамога сюды, дапамога туды, дапамога як хвароба, што прыносіць больш шкоды, чым дабра — *aids* ("дапамагае"), як сказаў легкадумна адзін мой сябар дзесяць гадоў таму...

І што б вы ні рабілі, спадзеючыся дапамагчы, выходзіць на нішто, калі толькі гэта ня робіцца *канкрэтна й пэрсанальна:* вы ўстанеце нявартыя перад Богам, што б вы ні рабілі, ніякіх правілаў паводзінаў ня хопіць, каб вам памагчы... Сімон Вэй дала сабе памерці, каб мець чыстыя рукі: але ці не хаваецца за яе ймкненьнем да чысьціні сярэднявечная апантанасьць катаванай чалавечай плоцьцю?

Французскі цягнік выехаў позна — ці я дарма памяняла гадзіньнік? — і едзе занадта хутка, каб можна было пасьпець прачытаць назовы на цёмнабура-чырвоных плятформах. Апрача аднае станцыі, назоў якое напісаны на сьцяне будынку, што стаіць тварам да ходу цягніка, а не паралельна з рэйкамі, як іншыя. Я толькі пасьпела ўхапіць: Pecquegny? Picquigny?

Пагаварыўшы зь сябрам з Заграбу пра тое, як там ідуць справы (цікава, людзі забываюцца, што яны за 30 міляў ад фронту!), мы паднімаемся з станцыі мэтро St Sulpice. І я завязваю наступны вузельчык на насоўцы: тут сьлед, які трэба прасачыць. Афіша «Зімовае Казкі». У перакладзе Іва Бонфуа? А побач: Яго. «О, цнота! Фігавы лісток! Мы ў нас саміх ўсю нашу існасьць носім, і наша цела — нібы плодны сад, а наша воля ў садзе тым садоўнік; калі ж мы садзім крапіву з салатай, ісоп заводзім, а цім'ян зрываем...» З сэрыі *«l'ésprit libre»*, што рэклямуе падарожныя крэдыткі, на іншых прыпынках — «Лісьце Травы» й «Мая Багема» Рэмбо.

Чаму St Sulpice? Таму што ён робіць непатрэбным роздум: дзе пачаць, што рабіць спачатку? Выхад чамусьці ня там, дзе мне здавалася, раней я выходзіла тут толькі таму, каб пайсьці ў другі бок — ва ўкраінскае выдавецтва: царква ўжо відна ў канцы вуліцы, Rue du Vieux Colombier, але на момант ахопленая панікай, я не магу зразумець, зь якога боку мы глядзім на царкву. Але й гэтак ясна, у які бок ісьці, каб трапіць у знаёмыя мясьціны, і так мы выходзім на Rue Madame, я ведаю з «Фальшываманэтчыкаў», што яна йдзе з поўначы на поўдзень і ледзь не датыкаецца Люксэмбурскага Саду, ведаю таксама ад Жака Рэда, майго апошняга гіда ў Парыжы, што на рагу ёсьць *tabac* (і праўда!), які ён зьвязвае з Цынгрыяй, бачачы, што ня мае грошай на марку, бо лісты падаражэлі да 2 франкаў...

Ну вось, мы выбраліся зь лябірынту, які я сама збудавала. Аднак што мяне напраўду зьбянтэжыла, дык гэта чорная дзяўчына, якая сьпявала канты там унізе: было так дзіўна чуць нешта рэлігійнае каля такое масыўнае царквы, выкінутае на бераг цяперашчыны, што я ўжо прамінула яе, калі зразумела, што яна хацела грошай, як тыя людзі ўчора з арабскімі малітвамі над павозкаю з баклажанамі й фігамі. А побач французскія адпаведнікі ангельскіх футбольных хуліганаў (або лепш сказаць вісусаў — нашто ж ужываць ірляндзкае слова для чыста ангельскае зьявы?) крычалі, заглушаючы яе голас: адчувалася, што яна зайшла занадта далёка, занадта небясьпечна сябе выставіла...

І жывыя рэклямы: адна з назовамі фірмаў парфумы й *haute couture* уздоўж хрыбта (Klein, Kookai, Max Mara...), яшчэ адна з кляймом ВІЧ-пазытыў; усё адзеньне *натуральна* шэрае й бурае, «модна / утульна ў сваёй скуры»... і партрэты Эрвэ Гібэра (1955-1991, той самы дзень нараджэньня, што і ў мяне), які сказаў (у сваёй кнізе «Да сябра, які не ўратаваў мне жыцьцё» — Мішэля Фуко), што «AIDS — не хвароба, AIDS проста адчыняе клетку са зьверам унутры вас, выпускае яго на вашыя лёгкія з пнэўмацыстознымі *грыбамі,* за якімі звычайна даглядае імунная сыстэма».

Але ёсьць на гэтым скрыжаваньні, дзе мы п'ем каву, і іншая прысутнасьць. «Зімовая Казка» ў французскім перакладзе Іва Бонфуа, які пачынае нават не адну, а цэлыя дзьве свае кнігі цытатамі зь яе: «Ты знаўся з тым, што адмірае, я — з тым, што пачынае жыць» і «і прамаўляла іхная бязмоўнасьць, і мовай поўнілася іх пастава; яны глядзелі, быццам бы пачуўшы, што сьвет быў зьнішчаны або ўратаваны». Уся яго творчасьць — гэта развагі над *сапраўдным месцам, прысутнасьцю, скрыжаваньнем, парогам,* павабны краявід на заднім пляне карціны, скажам, П'ера дэля Францэска — або больш позьняга пэйзажу Констэбла, *іншага* ангельскага мастака края- і небавідаў, «Дэдэм, бачаны з Лэнгэму»..., чыя «дзівосна пасрэбраная паверхня, нібы лісьцё й вада былі абсыпаныя драбнюткімі кропелькамі ртуці», як непрыхільна выказаўся іншы французскі пісьменьнік, ператвараецца ў праводнае сузор'е, што можа паказацца «ў мглістым люстэрку адзінаццатай гадзіны, / нібы рука, што мые акно дажджом, / колькі простых лічбаў, простых знакаў / што зьзяюць па-за словамі, неразгадальнымі / у нерухомасьці памяці...»

Rue Madame правядзе нас у Люксэмбург міма расейскай букіністычнай кнігарні (з рэклямай грузінскага рэстарана побач зь ёю), дзе гаспадыняю жанчына з прозьвішчам Хмялюк і дзе я аднойчы знайшла адну ўкраінскую кнігу (Зуеўскага, які выкладае ў Канадзе й пераклаў Малярмэ) і нават купіла яе, хоць яна была дарагая, тым часам як у іншай расейскай кнігарні, бліжэй да ракі, я ўзяла з паліцы том перапіскі Лесі Ўкраінкі, і ў мяне папрасілі за яе грошай утрая болей, чым было пазначана на вокладцы — я выйшла абураная й таму да сёньня ня ведаю, ці тыя некалькі тамоў Максіма Танка, што стаялі на недасяжнай верхняй паліцы былі ў арыгінале ці ў расейскім перакладзе... Але цяпер я

# КАМЕНЬ, ЯКІ РАСЬЦЕ

*Працяг са старонкі 13*

Няроўным трушком кок зрабіў яшчэ адну кароткую перабежку, але не як той, хто хоча прасунуцца трошкі наперад, а нібыта ўцякаючы ад цяжару, які душыў яго, нібыта спадзеючыся ў руху знайсьці палёгку. Сам ня ведаючы як, д'Ара апынуўся справа ад кока. Ён паклаў яму на сьпіну руку, якая зрабілася раптам бязважкай, і пайшоў побач, дробна й хутка перастаўляючы свае цяжкія ногі. На другім канцы вуліцы насілы з Хрыстом ужо зьніклі, і натоўп, які запоўніў, відаць, усю касьцельную плошчу, здаецца, болей не рухаўся. Кок, якога зьлева й справа суправаджалі брат і д'Ара, яшчэ некалькі сэкунд трухаў наперад. Неўзабаве яго аддзялала ўсяго пара дзясяткаў мэтраў ад мэрыі, каля якой, чакаючы, калі ён пройдзе, стаяла купка цікаўных. Але не дайшоўшы, ён зноў спыніўся. Рука ў д'Ара пацяжэла. «Давай, кок, — сказаў ён, — яшчэ зусім трошкі». Але цела ў кока дрыжала, з рота зноў пацякла сьліна, і з усіх пораў струмянямі ліў пот. Ён уцягнуў паветра, жадаючы ўздыхнуць як мага глыбей, і спыніўся на месцы. Потым рушыў ізноў, ступіў крокі тры, захістаўся. І раптам камень сасьлізнуў яму на плячо, садраў скуру й паляцеў долу, наперад, а кок, страціўшы раўнавагу, паваліўся набок. Тыя, што йшлі сьпераду, падбадзёрваючы яго, з крыкам адскочылі, і адзін тут жа, хуценька, падняў коркавую пракладку, а астатнія кінуліся да каменя, каб ізноў ускласьці яго на кока.

Схіліўшыся да яго, д'Ара рукою абцер яму запэцканае ў крыві й пыле плячо, але небарака ляжаў нерухома, уторкнуўшыся тварам у зямлю, і задыхаўся. Ён ужо нічога ня чуў, не варушыўся. І толькі прагна разяўляў рот пры кожным уздыху, нібыта гэты ўздых быў апошні. Тады д'Ара абхапіў яго рукамі за торс і адным рыўком, лёгка, падняў, быццам гэта было дзіцё. Ён прыціснуў яго да сябе, не даючы зноў упасьці, і, схіліўшыся з вышыні свайго немалога росту, нешта казаў яму ў твар, нібыта жадаючы ўдыхнуць у яго сілу. І нарэшце кок, сьцякаючы крывёй, перапэцканы гразьзю, адарваўся ад інжэнэра й разгублена пачаў азірацца. Хістаючыся, ён ізноў рушыў да каменя, які астатнія ўжо крыху прыўзьнялі. Але раптам спыніўся; ён глядзеў на камень пустымі вачыма й трос галавой. Потым бязвольна апусьціў уздоўж цела рукі й зірнуў на д'Ара. Па яго змардаваным твары ціха цяклі вялікія сьлёзы. Ён нешта хацеў сказаць, ён казаў, але ў яго вуснах ледзьве складаліся рэдкія словы. «Я паабяцаў»,— сказаў ён. І потым зноўку прамовіў: «Ах, капітан! Ах! Капітан!» Ягоны голас патануў у сьлязах. Тады з-за сьпіны ў яго ўзьнік брат, ён моцна абняў кока, і той, плачучы, пераможаны, прытуліўся да брата, закінуўшы голаў.

Д'Ара глядзеў на яго й не знаходзіў патрэбных словаў. Але раптам ён зірнуў на натоўп, які зноўку азваўся крыкам на другім канцы вуліцы. Тады, нечакана, ён вырваў коркавую пракладку з рук, якія яе трымалі, падышоў да каменя й, знакам паказаўшы астатнім яго прыўзьняць, амаль без намаганьня ўсклаў глыбіну на сваю галаву. Крыху згорбіўшыся пад яе цяжарам, угнуўшы плечы й крыху сапучы, ён стаяў, пазіраючы сабе пад ногі й чуючы кокавы ўсхліпы. Потым ён зрушыў зь месца, неаслабнай, магутнай ступою прайшоў усю адлегласьць, што аддзяляла яго ад натоўпу, і рашуча ўрэзаўся ў яго заднія шэрагі, якія адразу расступіліся перад ім. Пад шалёны грукат званоў і ляскат пэтардаў ён выйшаў на плошчу паміж двух жываплотаў людзей, якія нечакана аціхлі й глядзелі на яго са зьдзіўленьнем. Але ён не замаруджваў хады, упарта пасоўваючыся наперад, і натоўп разыходзіўся, адкрываючы яму

